# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
№ 51—52 (261—262)
24 снежня 1996 г. —
6 студзеня 1997 г.
КОШТ 3000 РУБЛЁЎ



*Чаканне чароўнай Казкі пад Новы год...*
*Гэта робіць ці не кожнага з нас крышачку*
*наіўным летуценнікам...*
*І так хочацца, каб адбыўся цуд!*
*Дык няхай пашчасціць табе, наш сябра-чытач,*
*і год наступны спраўдзіць усе твае мары!*



*З Новым, 1997 годам!*

# КАЛЯДУЙ І ХЛЕБ ЖУЙ



25 снежня — дзень зімовага сонцазвароту, калі сонейка пачынае свой новы шлях у Новым годзе. Дзень паціху павялічваецца, хоць лютуюць маразы, усё засыпана снегам, але ў паветры ўжо вітае прывід вясны. Пэўна, таму з гэтай датай міф аб нараджэнні сонца звязваецца з нараджэннем Хрыста, грэцкага бога раслiннасці — Дыяніса, персідскага бога сонца Мітры.

У рымлян першы дзень кожнага месяца называўся "календа" і ўсе яны святкаваліся, але найбольш урачыста адзначаліся календы навагодняя. Гэтыя назвы былі засвоены рознымі, у тым ліку і славянскімі народамі. А сама назва "Каляды" замацавалася за перыядам з 24 снежня па 6 студзеня (па старым стылі), увесь гэты час называлі "святыя вечары", на працягу якіх наладжваліся тры куцці. Першая — "Вялікая куцця" — і трэцяя ў народзе называліся посныя, а другая, перад Новым годам — багатай. За кожным разам зранку хата чыста прыбіралася. Куцця варылася з ячменю ці пшаніцы і рассычвалася мёдам ці алеем. На стале абавязкова стаялі стравы з рыбы, грыбоў, блінцы з макам, кісель аўсяны. Куцця ставілася ў цэнтры стала, абазначаючы багаты ўраджай і асабісты дастатак для ўдзельнікаў урачыстай вячэры.

Звычай святкавання Новага года і цяпер з'яўляецца адным з самых значных каляндарных свят. Менавіта таму, як некалі, дзеці, моладзь і сталыя людзі 25 снежня ўвечары пераапранаюцца, бяруць з сабой маскі казы, мядзведзя і ідуць па дварах і хатах калядаваць. Бо калядаванне займае цэнтральнае месца ў святочным навагоднім абрадавым цыкле. Моладзь з Мінска сустрэлася з сябрамі і прыяцелямі з Заслаўя і з абрадавымі песнямі, танцамі, калядныымі забавамі ды гульнямі прайшлася па заслаўскіх старажытных вулках. Абрады і песні прысвячаліся ўрадлівасці, багаццю той сям'і, у якую завіталі калядоўшчыкі. Пасля рытуальнага танца казы прадстаўленне заканчвалася ўзнагародай калядоўшчыкаў: салам, каўбасой, пірагамі ці грашыма, пляшкай. Калі механоша ўжо не ў стане быў насіць мех з падарункамі, уся кампанія калядоўшчыкаў завітала ў музейную хатку "Завознікі", архаічны інтэр'ер якой надаў урачыстасці моманту святочнага застолля "Вялікіх каляд".

Можна быць упэўненымі, што багацце, здароўе і шчасце не міне ў новым, 1997 годзе гаспадароў тых хат, куды завіталі нашы калядоўшчыкі!

**Валя ЯКІМОВІЧ**
**Фота Уладзіміра САПАГОВА**





# ДАКРАНІЦЕСЯ І БУДЗЬЦЕ ШЧАСЛІВЫЯ!

***Днямі сын паставіў мяне ў тупік такім пытаннем: "Вось у казках ёсць камінары, а ці магчыма сустрэцца з імі ў жыцці? Тым больш што, паводле падання, сустрэча з камінарам перад Новым годам прыносіць шчасце — трэба толькі абавязкова да яго дакрануцца". І мы пачалі пошукі.***

Калі ў Мінску ёсць коміны (дамоў з пячным ацяпленнем у сталіцы ажно 2704), значыць, павінны быць і камінары. Але сустрэча наша не адбылася. Магчыма, я іх кепска шукаў? Але да каго б я ні звяртаўся, мяне альбо не ўспрымалі ўсур'ёз ("Вы што, здзекуецеся?!"), альбо ўспрымалі занадта сур'ёзна ("Па тэлефоне даведак не даем", "Нашага начальніка завуць...", "Ягоны тэлефон...", "Тэлефануйце яму..."). А адзін параіў мне звярнуцца ў аркестр мінскіх пажарнікаў, палічыўшы "трубочиста" за трубача???

Так, ніхто — ні камунальшчыкі, ні пажарныя, ні выканкамы мясцовых саветаў — не здолелі назваць ніводнага камінара. Нібыта іх і не існуе. Але ж камінары былі! І я, з надзеяй на сустрэчу, узгадваў сваё маленства, калі камінар, з цяжкасцю захоўваючы сур'ёзнасць, тлумачыў мне, што слова "мажа" існуе толькі на маёй, дзіцячай, мове, а ў прыродзе існуе толькі сажа, з якой яны і прызначаны бязлітасна змагацца. Ад гэтых людзей патыхала казкай, магіяй, чараўніцтвам: яны былі велічэзныя і неяк асцярожна ступалі па зямлі. Дзіва што — яны ж працуюць паміж небам і зямлёю! Захапляла не толькі іхняя "чорная" праца, але і іхнія чорныя прылады: вяроўкі з шарамі, "ёршы", мяцёлкі, вёдры і лесвіцы; іх бліскучыя чорныя чаравікі, чорныя ад сажы і попелу камбінезоны і капелюхі. Усё ў іх было чорна-чорна, толькі ўсмешка і вочы — светлыя.

Мабыць, таму яны былі такія чорныя, што не толькі сажу выбіралі з комінаў, але разам з ёю і "чарнуху" нашага няпростага жыцця, робячы яго больш чыстым. Гэта былі чараўнікі Дабрыні, Радасці і Надзеі. Мабыць таму, што яны часцей за іншых глядзелі на зоркі. Вышыня стала працоўным месцам гэтых казачных людзей, адкуль яны бачылі свет шырэй, больш велічным і прыгажэйшым.

Яны самі адчувалі асаблівае стаўленне людзей да іхняй незвычайнай, рамантычнай і адначасова зусім звычайнай прафесіі. Толькі, на жаль, — знікаючай. Вельмі шкада. А як бы хацелася ўбачыць іх на вуліцах нашага горада — жывых, цяпершніх, сапраўдных. Гэта было б маленькае свята душы. Але з тае прычыны, што жывога камінара нам наўрад ці давядзецца сустрэць, дык хаця б дакраніцеся да ягонай выявы ў нашай газеце. І няхай гэтая мімалётная сустрэча з чараўніком комінаў, гарышчаў і дахаў прынясе Вам шчасце ў Новым годзе!

**Марат ГАРАВЫ**

# ФЕЕРВЕРК БЫВАЕ РОЗНЫ...

Шаноўныя арганізатары навагодніх мерапрыемстваў!

Напярэдадні Калядных святаў прымайце наступныя меры забеспячэння пажарнай бяспекі падчас правядзення ўрачыстасцяў:

Перад арганізацыяй культурна-масавых мерапрыемстваў узгадніце з органамі дзяржаўнага пажарнага нагляду месца ўсталявання елак у грамадскіх будынках, дзіцячых, вучэбна-выхаваўчых, культурна-відовішчных і іншых установах. Елкі для масавага наведвання павінны месціцца на першым альбо другім паверхах. Іх неабходна ўсталёўваць з такім разлікам, каб не перашкаджалі выходзіць з памяшкання. Галіны елкі павінны быць адсунутыя не меней за 1 метр ад сцен і столі. Лямпачкі ў гірляндах павінны мець магутнасць не болей за 25 Вт. Электраправады павінны мець непашкоджаную ізаляцыю.

Пры пашкоджанні елачнага асвятлення (моцнае награванне правадоў, міганне лямпачак і да т.п.) ілюмінацыя елкі павінна быць адразу адключана і не запальвацца да высвятлення пашкоджанняў і іх выпраўлення. Памяшканні, дзе ўсталёўваецца елкі, забяспечце першаснымі сродкамі пажаратушэння і тэлефоннай сувяззю. Гульню дзяцей ля елкі трэба праводзіць пад наглядам дарослых.

Забараняецца:

Упрыгожваць елку ватай, цэлулоіднымі і іншымі цацкамі і ўпрыгожаннямі, што лёгка запальваюцца; апранаць дзяцей у маскарадныя касцюмы з ваты, марлі ды паперы, не апрацаваных полымяахоўнымі саставамі; наладжваць светлавыя эфекты з ужываннем хімічных і іншых рэчываў, бенгальскіх свечак і хлапушак, абсыпаць елку соллю; выкарыстоўваць свечкі і самаробныя электрагірлянды для асвятлення елкі.

Пры ўзнікненні пажару неадкладна арганізуйце эвакуацыю людзей, выклічце па тэлефоне 01 пажарную службу і пачніце тушэнне пажару першаснымі сродкамі.

Шчаслівых Вам навагодніх і калядных свят!

**Аляксандр ЯКІМЕНКА,**
**пажарны інспектар**
**Цэнтральнага раёна г.Мінска.**

# ЮБІЛЕЙНЫЯ ДАТЫ Ў 1997 ГОДЗЕ

З 1994 года Нацыянальная бібліятэка Беларусі выдае вельмі цікавы дапаможнік "Знамянальныя і памятныя даты сусветнага календара". Кожны яго выпуск прапануе матэрыялы, прысвечаныя датам года і найбольш значным падзеям. У выпуску на 1997 год прадстаўлены матэрыялы да юбілеяў М.А.Балакірава, С.П.Каралёва, П.П.Сямёнава-Цянь-Шаньскага, Жана Батыста Мальера, В.В.Верасаева, Франца Шуберта, Леанарда да Вінчы, В.П.Салаўёва-Сядога, І.М.Крамскога, Пітэра Паўля Рубенса, І.К.Айвазоўскага, Джона Голсуорсі, Баляслава Пруса, К.Э.Цыялкоўскага, Уільяма Фолкнера, Луі Арагона, Сааведра Мігеля дэ Сервантэса, Жэрара Філіпа, Генрыха Гейнэ. Дадзены таксама матэрыялы да 850-годдзя з часу першага летапіснага ўпамінання Масквы. Да кожнай даты даецца грунтоўная даведка аб жыцці і творчасці дадзенай персаналіі і спіс літаратуры.

**Кацярына ВАРАНЬКО,**
**супрацоўніца Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**

*У сувязі з зімовымі школьнымі канікуламі Дзяржаўтаінспекцыя просіць кіроўцаў машын строга захоўваць правілы дарожнага руху, быць асабліва ўважлівымі ў месцах масавага адпачынку дзяцей, раёнах правядзення святкаванняў Новага года і Каляд.*

***ДАІ Цэнтральнага раёна г.Мінска***

## ГАСЦЯВОЕ КРЭСЛА




### ... І ХВІЛІНЫ РАДАСЦІ

Год, які адыходзіць у вечнасць, высакосны, а гэта азначае, што ён прыносіць цяжар узрушэнняў, драм і нават трагедый. Так яно і было. Маю на ўвазе не толькі падзеі ў Беларусі, але і ва ўсім свеце. Зноў чыніцца гвалт над людзьмі, ліецца кроў, што не можа не вярэдзіць душу.

Што тычыцца мяне асабіста, то гэты год, не выпускаючы з блакады бясконцых клопатаў, засмучэнняў, зрэдку дарыў і хвіліны радасці. Я ўдзячны яму за тое, што часопіс "Полымя", які маю гонар рэдагаваць, выжыў у бязглуздзіцы нашага жыцця, прыходзіў да чытача без асаблівых затрымак. Добра, што ўдалося захаваць калектыў рэдакцыі — грамаду самаадданых, самаахвярных, таленавітых людзей, сапраўдных патрыётаў выдання, якому хутка споўніцца 75 гадоў.

З наступнага года распачынаецца новы этап у нашай працы. Акрамя выканання свайго галоўнага абавязку — глыбока і поўна асвятляць сучасны літаратурны працэс у рэспубліцы, часопіс пад рубрыкай "Галасы свету" будзе рэгулярна знаёміць чытачоў з лепшымі дасягненнямі літаратараў блізкага і далёкага замежжа. У студзеньскім нумары публікуецца вялікая падборка паэзіі і прозы Германіі. На чарзе — чэшская, польская, балгарская, шведская, украінская літаратуры.

Нягледзячы на занятасць рэдакцыйнымі і грамадскімі абавязкамі, змог нешта зрабіць і сваё. Напісана паэма "Зязюля", некалькі дзесяткаў вершаў, шэраг публіцыстычных артыкулаў. У варшаўскім выдавецтве "POD WIATR" надрукавана кніга "Чорны конь апакаліпсіса" ў перакладзе на польскую мову даўняга сябра нашай літаратуры Чэслава Сенюха. Прайшлі яе прэзентацыі: у Варшаўскім універсітэце, у касцёле Святой Тройцы, у сельскагаспадарчай школе.

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла маю новую кнігу "Вячэра пад райскім дрэвам", якая знаёміць чытачоў з культурай, традыцыямі, бытам Італіі, Сербіі, Францыі, Германіі і Швейцарыі, выходзіць на чарнобыльскія праблемы, якія хвалююць усё чалавецтва. Паказваючы іншае жыццё, я перакідваю кладку памяці да роднае зямлі, расказваю пра сённяшні дзень, трывогі і надзеі беларусаў, якія сталі на шлях будаўніцтва незалежнай дзяржавы. Прэзентацыя гэтай кнігі нядаўна прайшла ў Германіі, у царкве Святой Тройцы горада Франкфурт-на-Майне.

Радуюся я і таму, што на Украіне будзе выдадзена кніга нашай выдатнай паэткі Яўгеніі Янішчыц, якая так рана пайшла з жыцця. Прадмову да гэтага выдання па просьбе ўкраінскіх сяброў пісаў з асаблівай настроенасцю душы: было і шчымліва — ад прыпамінаў, і светла, бо гаварыў пра сапраўдную паэзію, якой наканавана вечнае быццё.

Думаю, што новы год, хоць і будзе нялёгкім, усё ж не абміне нас драбочкам радасці, нечым светлым.

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**

### НЕ БОЙЦЕСЯ РЭАЛІЙ ДНЯ




Вельмі ахвотна сустракаюся з нашым штотыднёвікам "Культура" напярэдадні Новага года. Дзякую яго супрацоўнікам за іхнюю працу і вернасць нацыянальнай традыцыі. Калі народ не забыў сваю культуру, то, як казаў вялікі паэт, "жывая яшчэ душа ў народзе гэтым" (Максім Багдановіч).

У гутарцы са спадаром Валянцінам Акудовічам, надрукаванай у часопісе "Крыніца" (1995, № 5), я коратка вызначыў сваё разуменне сэнсу людской гісторыі ў яе трох вымярэннях — мінуўшчыне, сучаснасці і будучыні: усё паміpае ў свой час — людзі і дзяржавы. Несмяротныя толькі Дух, які ад Бога, і культура, створаная народамі.

Ёсць гады і дні, якія занадта палітызаванаму і празмерна сацыялагізаванаму чалавеку здаюцца "чорнаю дзіркаю". Мая парада: не трэба баяцца гэтай рэальнасці са знакам мінус. Ёсць у ёй глыбіня падзення, якая часам патрэбная, каб падняцца ў вышыню. Ёсць свой сэнс у адмоўнай рэальнасці, у грамадскім нябыце. Гэта ноч — "час, калі трэба журыцца душою на свежых магілах пуста пранёсшыхся днёў" (М.Багдановіч). Але як ноч спараджае дзень, так і журбота і пакута — творчасць. Толькі боль сведчыць пра жыццё. Мёртвым не баліць. Найвялікшую праўду сказаў мудрэц у кнізе Іова: "Чалавек нараджаецца на пакуты, як іскры, каб паднімацца ў вышыню".

Асабіста я сёлета не быў пакрыўджаны лёсам. Удзельнічаў у працы пятнаццаці навуковых і творчых канферэнцыяў, апублікаваў больш за сорак артыкулаў і нарысаў. Усё гэта — матэрыялы да галоўнай працы жыцця — гісторыі і тыпалогіі беларускай культуры ў некалькіх кніжках. Адносна закончаныя фрагменты яе сёлета друкаваліся ў часопісе "Адукацыя і выхаванне" пад назвай "Архетыпы нашай культуры", а летась — у "Нёмане" пад назваю "Народ у каардынатах культуры". Калі Бог дасць папрацаваць яшчэ гадоў пяць-сем, то гэтае навукова-папулярнае даследаванне нешта засведчыць пра тысячагадовую беларускую культурную традыцыю.

Віншую вас з Калядамі, дарагія калегі!

**Уладзімір КОНАН**






### ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З НАМІ

Кінарэжысёр Віктар Аслюк працягвае атрымоўваць прэміі за свой фільм "Слёзы блуднага сына". На Міжнародным кінафестывалі кароткаметражных фільмаў "Альтэрнатыва" ў Пулгумурэжы (Румынія) ён атрымаў спецыяльны дыплом журы за рэжысуру і прыз крытыкі "Сярэбраная стужка".

Нагадаем, што першыя прызы былі атрыманы ім яшчэ на сёлетнім кінааглядзе "Панарама новага беларускага кіно". Фільм, у якім малады рэжысёр візуальна-пластычнымі сродкамі кінамастацтва паспрабаваў асэнсаваць складаныя праблемы гісторыі Беларусі і іх суадноснасць з сучаснасцю, крытыкі адзінагалосна назвалі "мастацкай і эстэтычнай з'явай беларускага кінематографа".

Па-ранейшаму славутая стужка ў колькасці адной копіі знаходзіцца ў рэжысёра. Яе могуць глядзець у асноўным цікаўныя і ўдзельнікі розных кінематаграфічных фэстаў. Сітуацыя, на жаль, тыповая для айчыннага мастацтва.

У "свецкай размове" з рэжысёрам пра год адыходзячы мы даведаліся, што толькі што на "Летапісе" ім закончана новая работа "Забытыя нябёсы". Гэты фільм працягвае эстэтычныя пошукі стужкі "Слёзы блуднага сына". Пра фільм Віктара "Трыццаць гадоў чакання", які ён зняў на Белвідэацэнтры, мы ўжо пісалі. Пра іншыя падзеі цытуем рэжысёра:

"Я зразумеў, што павінен працаваць у любых умовах. Раней, напрыклад, мне здавалася, што я ніколі не буду траціць час на "заказухі" (заказныя фільмы). Але вось здымаў пра свінарнік, і мне было цікава, таму што я працаваў. Кожная новая работа — гэта працяг прафесійнай вучобы.

З падзей у асабістым жыцці — майму сыну Яну споўніўся год. І з кожнай гадзінай ён займае ў маім жыцці ўсё болей месца.

Наступны год будзе для мяне свайго роду выніковым. Але я павінен канчаткова высветліць для сябе: я магу або не магу заставацца ў гэтай прафесіі."

"К" жадае поспехаў Віктару ў здачы своеасаблівага экзамена на прафесійнае майстэрства. Свае адзнакі мы ўжо паставілі.

**Г.Ш.**




*Мастак Уладзімір Шаркоў павіншаваў з Новым годам калектыў "Культуры" гэтай цудоўнай створанай ім паштоўкай.*

СВЕТ І МЫ




# МАГІЯ ЧАРОЎНАГА ПАРЫЖА

Нечаканай і прыемнай падзеяй для мяне ў адыходзячым годзе было запрашэнне французскай амбасады наведаць Парыж, каб пазнаёміцца з дзейнасцю буйнейшых бібліятэк.

Гэтай падзеі папярэднічала сур'ёзная, амаль што двухгадовая сумесная работа, праведзеная дарадцам па культуры, навуцы і тэхніцы французскай амбасады спадаром Франсуа Ларанам і супрацоўнікамі абласной бібліятэкі імя А.С.Пушкіна. Гэта — і цікавыя шматлікія мерапрыемствы ў межах "Час кніг 1995", тыдня франкафоніі ўвесну гэтага года, а таксама "круглы стол", "Літаратура на французскай мове" і адкрыццё кіёска французскай прэсы, які ўтрымлівае 30 найменняў штотыднёвікаў і штодзённых выданняў па розных галінах ведаў.

І ўрэшце — адкрыццё ў нашай бібліятэцы франка-беларускай залы і інфармацыі аб сучаснай Францыі, краіне выдатнай культуры, літаратуры, мастацтва і музыкі.

Тое, што гэта значная падзея ў культурным жыцці сталіцы, сведчыць вялікая колькасць наведнікаў — навукоўцаў, выкладчыкаў, мастацтвазнаўцаў, прадпрымальнікаў, студэнтаў і іншых чытачоў, якія цікавяцца Францыяй, а праз яе — сусветнай культурай. Сапраўды, нельга ўявіць сённяшняга чалавека без прысутнасці ў яго свядомасці скарбаў Луўра, Версаля, мастакоў і пісьменнікаў Францыі. І вялікая радасць убачыць на свае вочы Мону Лізу — я толькі там, у Луўры, усёй душой адчула магічны ўплыў геніяльнага Леанарда да Вінчы, а да гэтага, шчыра сказаць, здзіўлялася той захопленасці, якая лунае вакол Джаконды. А прыхаматліва вытанчаны Версаль, а старажытныя вуліцы Парыжа! Праўда, на іх у мяне зусім не заставалася часу: праграма была вельмі "шчыльнай". Затое, магчыма, удасца выкарыстаць у сваёй паўсядзённай працы вопыт лепшых бібліятэк Францыі, хаця, мне здаецца, шмат цікавага і прыдатнага для абмену вопытам ёсць і ў нас.

**Наталля ЧУЕВА,**
**дырэктар абласной бібліятэкі імя А.С.Пушкіна.**



# ЛЕКСІКОГРАФЫ ЎСІХ КРАІН,

***Складанне слоўнікаў, лексіконаў, даведнікаў — справа не толькі захапляльная, але, перадусім, надта няпростая. У гэтым можна было яшчэ раз пераканацца на міжнароднай навуковай канферэнцыі "Расійская літаратура. Лексікаграфічная і біябібліяграфічная праблематыка", якая адбылася ў Варшаве 9 — 12 снежня і якую арганізавалі Інстытут славістыкі польскай Акадэміі навук і Расійскі Цэнтр навукі і культуры ў Варшаве пад навуковым кіраўніцтвам прафесара, доктара навук Анджэя Дравіча.***

Магчыма, менавіта асоба гэтага знанага дзеяча культуры і навукі, некалі знакамітага дысідэнта і "парушальніка" сацыялістычных скамянелых канонаў, наклала свой адбітак на сустрэчу расійскіх, польскіх і беларускіх навукоўцаў і пісьменнікаў, бо аб складаных і часам вельмі спрэчных пытаннях гаварылася неяк лёгка, з гумарам, з павагай адзін да аднаго, а дыскусіі працягваліся ў перапынках, паміж паседжаннямі, у пакоях, дзе размясціліся навукоўцы, і самі па сабе яны былі цікавыя і павучальныя.

"Дражнілкамі" для спрэчак былі перш за ўсё два выданні: "Лексікон" нямецкага даследчыка Вольфганга Казака, які выйшаў у перакладах на польскую і расійскую мовы, а таксама "Пуцяводца па сучаснай рускай літаратуры і яе ваколіцах" Тадэвуша Клімовіча. Унікальнасць іх у тым, што яны напісаныя кожны адным чалавекам, але ў гэтым іхняя сіла і слабасць, бо адзін чалавек не можа быць спецыялістам па ўсіх пісьменніках; стваральнік "Пуцяводцы..." Т.Клімовіч ахарактарызаваў яго так: "У мяне, можа, ваколіц болей, чымся самой літаратуры". Да таго ж, В.Казак увёў у "Лексікон" Л.Брэжнева як лаўрэата Ленінскай прэміі за творы літаратуры, і спрэчкі спецыялістаў тычыліся правамернасці такога ўключэння, паколькі вядомыя сапраўдныя аўтары "Малай зямлі" і "Цаліны". Але ж мільён школьнікаў пісалі паводле гэтых твораў сачыненні, выходзілі рэцэнзіі. Замоўчваць ці, уключаючы ў чарговы даведнік, даваць характарыстыку як пэўнаму факту? Але што такое сам факт? "Мы ведаем, — гаварыў у сваім дакладзе прафесар Фларыян Няўважны (дарэчы, знаны перакладчык з беларускай, украінскай і рускай моваў, які шмат сілаў аддаў папулярызацыі нашай літаратуры ў Польшчы), — што пры складанні бібліяграфічных і біяграфічных даведнікаў павінны кіравацца праўдзівымі фактамі. Але якія менавіта факты можна і трэба ўключаць? Алкагалізм, венерычныя хваробы, сексуальныя асаблівасці — інтымная рэч. Але калі яны аказалі ўплыў на стварэнне тых ці іншых твораў, тэндэнцый? Літаратурны факт ці не — прамовы славутых юрыстаў, такіх, як Коні, якія аказвалі вялікі ўплыў на творчы працэс? Ці трэба ўключаць у такі даведнік Бярдзяева, Нуйкіна, Амосава, славутых выдаўцоў, белетрыстаў — такіх, напрыклад, як Юліян Сямёнаў?"

Дыскусіі выклікала і ўключэнне ў слоўнікі рускіх пісьменнікаў — творцаў нацыянальных літаратур, якія пішуць на рускай альбо перакладаюць уласныя творы на рускую мову. Фларыян Няўважны не згадзіўся з гэтым, гаворачы, што В.Быкаў, А.Сулейменаў, Ч.Айтматаў, І.Друцэ — не рускія пісьменнікі і спаслаўся на ўласнае апытанне названых творцаў. Але пытанне гэтае зусім няпростае — Ф.Іскандэр, напрыклад, называе сябе рускім пісьменнікам абхазскага паходжання. Усе пагадзіліся на тым, што тут трэба ўлічваць дзве рэчы: факт самасвядомасці — якім лічыць сябе сам пісьменнік, а таксама факт успрыняцця ягонай творчасці пэўным культурным асяроддзем.

Не абышлося і без казусаў. Так, польская даследчыца Іаланта Скрунда паведаміла, што на адрас выдавецтва "Wiedza Powszechna" прыйшоў ліст далёкай сваячкі Францішка Багушэвіча, якая даказвала, што ён не беларус, а паляк. Але паколькі ягоныя творы напісаныя выключна па-беларуску, паводле гэтага ліста ўвялі паралельнае напісанне прозвішча праз "о" і праз "а". Дарэчы, яе сцверджанне, што Мікола Гусоўскі — толькі лацінска-польскі паэт, выклікала дыскусію, падчас якой кандыдат філалагічных навук Лола Званарова, вядомы даследчык творчасці Сімяона Полацкага і аўтар прац па беларускай літаратуры, прывяла шматлікія прыклады ўсведамлення гэтым пісьменнікам сваёй прыналежнасці менавіта да Вялікага княства Літоўскага.

Дарэчы, менавіта ў выдавецтве "Wiedza Powszechna" і выходзяць шматлікія навуковыя выданні і слоўнікі, якія, паводле словаў рускага даследчыка А.Багданава, некалі як узор прыходзілі ў Расію менавіта з Польшчы, і праз яе ж межы яшчэ і славутыя Амстэрдамскія даведнікі, якія мелі вялікі ўплыў у тагачасным рускім грамадстве. "Мы прыехалі дзеля таго, каб паказаць, што робіцца зараз у Расіі, пахваліцца перад сваімі творчымі настаўнікамі і заключыць новыя агульныя планы", —сказаў ён. Яго падтрымаў Вадзім Баранаў: "Нам трэба шырэй выкарыстоўваць агромністы вопыт Польшчы, асабліва ў выданні слоўнікаў". Дырэктар выдавецтва Ёзаф Хлябіч не толькі расказаў аб працы выдавецтва, але і прадэманстраваў слоўнікі, бібліяграфічныя даведнікі, лексіконы і да т.п., якія шматмільённымі тыражамі выходзяць у Польшчы, у тым ліку нядаўнія "Крэсы ў літаратуры", "Беларуска-польскі. Польска-беларускі слоўнік" Тэрэсы Ясіньскай і Альберта Барташэвіча, з якога можна было даведацца, што хутка выйдуць "Мініразмоўнікі беларускія" Станіслава Шадыкі і Аліны Войцік, не кажучы пра "Слоўнік антычных пісьменнікаў, навагрэчаскіх, расійскіх, скандынаўскіх, польскіх"... Па-добраму можна пазайздросціць нашым суседзям: яны не трацяць цікавасці да Беларусі і яе культуры, у той час як у нас такі інтарэс апошнім часам стаў падаць, скіраваўся толькі на Усход. А мы ж можам стаць сапраўдным культурным мастом паміж Усходам і Захадам, аднак для гэтага патрэбныя не толькі сродкі,

# КАМП'ЮТЭРЫ СТВАРАЮЦЬ БУДУЧЫНЮ

***Увага навуковай грамадскасці свету напрыканцы года была прыкавана да Прагі — тут праходзіла канферэнцыя "Новая прастора ў культуры і грамадстве". На жаль, не ўсе нашы суграмадзяне маюць спадарожнікавае тэлебачанне і доступ да інфармацыйнай сеткі Інтэрнэт, таму пра гэтую падзею варта распавесці са старонак газеты.***
***На якім этапе знаходзіцца зараз вырашэнне праблем суадносінаў паміж мастацтвам, гуманітарнымі і дакладнымі навукамі ў свеце? Што на гэты конт думаюць на Беларусі? Якія канкрэтныя захады робяцца сёння, каб удасканальваць сферу інфарматызацыі, і якую карысць з таго можа мець кожны канкрэтны грамадзянін? На гэтыя пытанні адказвае загадчык кафедры інфармацыйных тэхналогій у культуры Беларускага універсітэта культуры Аляксей Бураўкін.***

— Канферэнцыя "Новая прастора ў культуры і грамадстве" праводзілася па ініцыятыве Савета Еўропы, — сказаў ён. — Па запрашэнні Вацлава Гавела канферэнцыя адбылася ў Празе, у адным з будынкаў рэзідэнцыі прэзідэнта. Арганізацыйны, дыпламатычны ўзровень сустрэчы быў распрацаваны дасканала, па вышэйшых еўрапейскіх стандартах. Мы сустракаліся і з прадстаўнікамі Савета Еўропы, і з вышэйшымі службовымі асобамі Чэхіі. Склад удзельнікаў канферэнцыі быў дастаткова разнастайны, мусіць, таму яна і ўразіла сваёй адметнай арыгінальнай тэматыкай. На маю думку, гэта адна з першых спробаў у Еўропе звесці разам прадстаўнікоў дакладных навук і дзеячаў мастацтва і культуры. Праўда, шкада, што дакладныя навукі прадстаўляліся толькі матэматыкай, а спецыялісты ў галіне тэхнікі засталіся па-за ўвагай арганізатараў. Культура ж выглядала больш рэспектабельна, калі можна так сказаць: у Прагу прыехалі і рэжысёры, і сцэнарысты, і мастацтвазнаўцы, і філосафы. Канферэнцыя доўжылася тры дні пры ўдзеле вялікай колькасці гасцей з краін Еўропы і ЗША. Садружнасць Незалежных Дзяржаў прадстаўлялі Расія і Беларусь. Традыцыйнага пленарнага паседжання і работы па секцыях, дзе звычайна абмяркоўваюцца канкрэтныя праблемы, не адбывалася. У агульнай свабоднай дыскусіі маглі браць удзел усе запрошаныя, больш за 80 чалавек. Дарэчы, тэхнічнае абсталяванне канферэнцыі было проста выдатным: тое, што адбывалася, фіксавала відэакамера, і на вялізным экране можна было назіраць за выступоўцамі. Па еўрапейскіх тэлеканалах прайшоў шэраг тэлеперадач, прымеркаваных да форуму, у тым ліку, па трансляцыі ішлі і на Расійскім тэлебачанні. Канферэнцыя мела адпаведнае адлюстраванне і ў камп'ютэрных сродках. Так, у Інтэрнэце для яе быў заведзены асобны аркуш, і ў любы час па гэтай сетцы можна было даслаць свае прапановы і меркаванні.

**— Спадар Аляксей, Вы ехалі на канферэнцыю з адным корпусам ідэй, вярнуліся, відаць, з іншым. Як паўплываў форум на Вашыя навуковыя перакананні?**

— Мы, наша кафедра і арганізацыі, з якімі супрацоўнічаем, у прыватнасці Лабараторыя іерархічных многаўзроўневых сістэм, даволі даўно займаемся гэтымі праблемамі. І я ехаў у Прагу, ужо маючы дакладнае ўяўленне аб праблемах у дачыненнях паміж навукай і мастацтвам, аб новай культурнай прасторы, якую ўтварае гэтае ўзаемадзеянне. У першую чаргу, гэта, вядома, тычыцца інфармацыйных тэхналогій у культуры. Канферэнцыя пацвердзіла, што мы знаходзімся на правільным шляху, бо большасць удзельнікаў абмяркоўвалі блізкія нам пытанні. На сустрэчы вельмі часта гучала слова "Інтэрнэт", у прыватнасці як з дапамогай камп'ютэрнай сеткі можна падтрымліваць культурныя праекты і да т.п. Усё гэта цудоўна! Але быў шэраг пазіцый, па якіх яна не апраўдала маіх спадзяванняў. Асабіста я прывык да таго, што на пленарным паседжанні дастаткова коратка і ясна павінна фармулявацца квінтэсенцыя праблемы. На жаль, многія выступленні мелі традыцыйна-маштабны, мо, нават, абстрактны характар і не адпавядалі, на мой погляд, навізне сітуацый. І бадай, самае галоўнае. Калі канферэнцыя заяўлена па ініцыятыве Савета Еўропы, яна павінна была прыняць пэўнае агульнае рашэнне ў сваім рэзюме, вынесці канкрэтныя парады Савету Еўропы: Фактычна ж атрымалася элітарная тусоўка, сустрэча людзей, якія мелі некалькі дзён кантактаў. Канешне ж, трэба ўлічваць, што гэта быў, напэўна, першы такі вопыт, і вельмі важна, што справа распачата. Трэба ўсведамляць наступнае: вынікі канферэнцыі павінны ўплываць на інфармацыйныя працэсы. Калі гаворка ідзе пра тыя ж камп'ютэрныя сеткі, то можа паўстаць пытанне: на што менавіта там уплываць? На размеркаванне інфармацыі, на яе кіраванне. Напрыклад, як можна не дапусціць распаўсюджвання той жа парнаграфіі ў Інтэрнэце. Многія пра гэта гаварылі вельмі ўсхвалявана, агітавалі за тое, каб нешта рабілася, але канкрэтных практычных прапаноў не было. Безумоўна, трэба ўдасканальваць структуры Інтэрнэта, хоць там выдатная тэхнічна-камунікатыўная аснова, але ўвогуле ўся інфармацыйная структура і сістэма карыстання ёю вымагае ўдасканалення.

**— Наколькі я вас зразумеў, на канферэнцыі, як у люстэрку, адбілася адна з галоўных бед навукі — спекуляцыя на навукападобных тэмах. Праблема нібыта называецца, вакол яе вядуцца розныя інтэлектуалізаваныя спрэчкі, але яна не вырашаецца. Нават калі адкрываюцца прынцыпова новыя тэмы і метад, пад іх распрацоўку даецца новае тэхнічнае забеспячэнне, гэта яшчэ не гарантыя поспеху.**

— Так, натуральна...

**— Але для мяне канферэнцыя — гэта, перш за ўсё, магчымасць людзям сабрацца, пагаварыць нават не па тэме. Сэнс выязных семінараў, фестываляў — некалькі дзён і начэй... не паспаць. Для мяне чатыры гадзіны сну на тры дні і абмеркаванне тэм, якія часам вельмі далёкія ад заяўленых, — проста асалода! Пагадзіцеся, пасля свет так ці інакш трохі мяняецца... Нядаўна ў Саюзе пісьменнікаў прайшоў семінар, прысвечаны постмадэрнізму, і сам той факт, што гэтая праблема абмяркоўваецца ў сценах падобнай арганізацыі, надае постмадэрнізму новае гучанне, якасць. Фактычна постмадэрнізм становіцца і ў нас акадэмічным.**

— Паўтараю, тое, што канферэнцыя праходзіла пад эгідай Савета Еўропы, сведчыць: праблема прызнана светам на самым высокім узроўні.

СВЕТ І МЫ

# ЯДНАЙЦЕСЯ!

але і дзяржаўная палітыка, якой пакуль што няма.

Палітыка, якая, здавалася б, знаходзіцца далёка ад спецыфічных праблем лексікаграфіі, аказвае на яе агромністы ўплыў. Пра шкоду, якую нанесла навуцы цэнзура савецкіх часоў, гаварылі шмат, як і пра тое, што трэба рабіць сёння, каб выправіць тую шкоду. Дарэчы, Ёзаф Хлябіч расказаў, як, выдаючы ў часы Брэжнева "Слоўнік Кастрычніцкай рэвалюцыі", польскае выдавецтва ўключыла туды Троцкага, Бухарына, Каменева і г.д. Наспяваў скандал. Тады зрабілі вельмі прыгожы экземпляр кнігі з пераплётам з аленяй скуры, і пасол Новак падарыў яго Брэжневу. "Во як палякі ўмеюць выдаваць!". Той, не чытаючы, пахваліў прыгожую кніжку, падпісаў прынесены ліст-падзяку ў выдавецтва, і тады справу проста "прыкрылі".

(Ёзаф Хлябіч у 46-м быў арыштаваны, яго прымусілі пісаць уласную біяграфію — па-руску. Ён напісаў не Іосіф Георгіевіч, а Іосіф Вісарыёнавіч, але палкоўнік-следчы не зразумеў жарту і зламаў яму нос. Выйшаўшы на свабоду, Хлябіч працаваў рэдактарам у выдавецтве, а пяць гадоў таму стаў дырэктарам. Патомак Панятоўскіх па маці і татарына, што пасяліўся тут яшчэ пры Вітаўце, ён умее трапна пажартаваць і відавочна ганарыцца кнігамі выдавецтва, у якім прапрацаваў 40 гадоў.)

Усе шчыра спадзяюцца, што стасункі паміж сённяшнімі дэмакратычнымі дзяржавамі складуцца па-сапраўднаму дружалюбна, недарма ж на канферэнцыі гучалі словы і аб тым, што выдадзеныя ў свой час у рамках "самиздата" такія кнігі, як "Незалежная ўсеагульная энцыклапедыя", творы Вайновіча і Салжаніцына аказвалі пэўны ўплыў на грамадска-дэмакратычную сітуацыю ў Польшчы, і, у сваю чаргу, друкаванне ў польскай прэсе твораў расійскай і беларускай літаратуры, бывала, дапамагала таму ці іншаму пісьменніку ў час праследаў. Пра гэта гаварылі Ян Вайноўскі і Вольга Іпатава. Апошняя прыгадала свае ўражанні ад сустрэч з Ларысай Геніюш і прапанавала ідэю стварэння беларуска-польска-расійскага слоўніка жанчын-пісьменніц. Гэтую ідэю падтрымалі, аднак пры абмеркаванні зноў узніклі дыскусіі аб тым, ці варта ўносіць у такія слоўнікі пісьменнікаў, якія выступаюць супраць ідэі дэмакратыі і незалежнасці свайго народа.

Цікава, што апошнія гады расце цікавасць менавіта да слоўнікаў, як і ўвогуле да "чыстай" інфармацыі. Таму пры абмеркаванні цікавага і вострага даклада А.Шчуплова "Слэнг маскоўскай пісьменніцкай тусоўкі як люстэрка літаратурнай сітуацыі канца XX стагоддзя" Анджэй Дравіч, перафразіраваўшы славуты выраз, кінуў жартоўнае: "Лексікографы ўсіх краін, яднайцеся!". Мабыць, гэты выраз сапраўды можна было б паставіць эпіграфам да канферэнцыі, вынікам якой з'яўляюцца новыя выданні па гісторыі нашых трох культур.

**В.Ф.**





# ЧЫЙ "КОНЬ" ЛЕПШЫ?



На вуліцы віруе канец XX стагоддзя: імчаць цягнікі і аўтамабілі, ляцяць самалёты і касмічныя спадарожнікі. А вось людзі, якія шчыруюць на ніве культуры, нярэдка выбіраюць самыя дзівосныя транспартныя сродкі. Так, супрацоўніца аддзела культуры Слуцкага райвыканкама Людміла Кулікоўская пасля наведвання Сярэдняй Азіі марыць набыць сапраўднага вярблюда, каб не мучыцца, дабіраючыся на папутках і пешшу ў аддаленыя сельскія клубы.

Зусім іншае захапленне ў старшыні таварыства дружбы "Беларусь — Латвія" Сяргея Панізьніка. Вядомы беларускі паэт спадзяецца, відаць, адрамантаваць знойдзены драўляны веласіпед, каб потым на ім бесклапотна, мінаючы межы і мытні, ездзіць ляснымі сцежкамі да сваіх сяброў-латышоў.

**Зміцер ВОЛКАЎ**



**— Становіцца звышактуальным і звышнадзённым адкрыццё новых культурных прастораў у выніку ўзаемадзеяння мастацтва і навукі. Але канферэнцыя, як я зразумеў, збілася на тэхнічныя пытанні, у прыватнасці, на камп'ютэрызацыю.**

— На жаль, у літаральным сэнсе слова тэхнічныя і тэхналагічныя пытанні не абмяркоўваліся, бо "тэхнары" не былі запрошаны. Хаця, з іншага боку, на гэтым этапе, магчыма, і патрабаваць нечага большага не даводзіцца. Дарэчы, у Інтэрнэце адкрыта спецыяльная старонка для матэрыялаў канферэнцыі. Вы маеце магчымасць у ёй прачытаць любы даклад, праглядзець файлы дыскусій. Больш таго, любы карыстальнік можа туды даслаць свае прапановы нават цяпер, пасля заканчэння форуму. Для кожнага ўдзельніка канферэнцыі, калі ў яго ёсць жаданне абмяняцца інфармацыяй, адкрываецца спецыяльная электронная паштовая скрыня. Я лічу, што гэта асноўны вынік канферэнцыі.

**— Такія пазіцыі ў Інтэрнэце вельмі цяжка адкрываць...**

— Асабліва, калі ўлічыць, што ён зараз актыўна камерцыялізуецца. Таму Савет Еўропы зрабіў вельмі карысны крок. Цяпер ёсць магчымасць пастаяннага аператыўнага абмену інфармацыяй і меркаваннямі.

**— Ці з'явіліся на канферэнцыі кардынальна новыя тэксты, канцэпцыі, ідэі?**

— На мой погляд, не.

**— Наколькі рэальна ажыццяўленне аналагічнага праекта на Беларусі? Ці маглі б Вы ўзяць на сябе адказнасць за яго правядзенне: стварыць канцэптуальны план канферэнцыі, запрасіць адпаведных людзей, каб пачатак, пакладзены ў Празе, у Мінску змог атрымаць больш акрэсленыя і карысныя навукова-практычныя вынікі?**

— Яшчэ задоўга да сустрэчы ў Празе такая ідэя была. Але ж, лічу, на Беларусі сітуацыя для правядзення падобных мерапрыемстваў пакуль не наспела. Важна, што Пражская канферэнцыя ўзняла статус праблемы, а Беларусь мае дастатковы навуковы патэнцыял дзеля рэальнай працы. У Беларусі адбываецца вельмі моцны рух у гэтым накірунку. Вазьміце, напрыклад, стварэнне нашай кафедры — кафедры інфармацыйных тэхналогій у культуры.

**— У чым прынцыпова адрозненне Вашай кафедры ад іншых навукова-навучальных цэнтраў? Бо на тэрыторыі СНД падобных навуковых структур няма.**

— Мы займаемся не толькі распрацоўкай інфармацыйных тэхналогій сістэм, а іх укараненнем у культуру і мастацтва. Гэта патрабуе ад нашых спецыялістаў не толькі дасканала валодаць тэхнікай, але і разбірацца ў мастацтве. Кафедра вымагае універсалізму выкладчыкаў і студэнтаў.

**— Але Вы называеце агульныя і прыгожыя рэчы. Узнікаюць два пытанні. Першае: канкрэтны практычны вынік Вашай дзейнасці. Другое: ці можаце Вы запэўніць падаткаплацельшчыка, што тыя дзяржаўныя грошы, якія вы выкарыстоўваеце, ідуць на патрэбную для яго справу.**

— Пытанні натуральныя. Што тычыцца практычнай дзейнасці: гэта работы, звязаныя з канструяваннем, якія заўсёды праходзяць некалькі этапаў. Гэтыя этапы патрабуюць часу і іх абмінуць немагчыма. Гэта даказана жыццём — на Захадзе і ў нас. А на другое пытанне: па спецыялізацыі "Інфармацыйная сістэма ў культуры" конкурс абітурыентаў сёлета склаў 4 чалавекі на месца.

**— Фактычна можна правесці паралель з тэхнічным праектам: некалькі гадоў распрацоўваецца "чарцёж", пасля робяцца выпрабавальныя мадэлі, пасля ўжо наладжваецца вытворчасць новых машын.**

— Так, агульнавядомы прыклад матэматыка Без'е, які працаваў на фірме Рэно. Фінансавыя ўкладанні ў распрацоўкі пачаліся ў 50-я гады, а канструкцыю, якая выйшла на міжнародны рынак, выпусцілі толькі ў 70-я. Безумоўна, навука, адукацыя заўсёды звязаны з інвестыцыямі. Няма інвестыцый — няма навукі, адукацыі. Мы зараз працуем над праектам па Дзяржаўнай праграме інфарматызацыі. Там ёсць раздзел па інфарматызацыі культуры, і я з'яўляюся яго кіраўніком. Задзейнічаны і супрацоўнікі нашай кафедры, іншых арганізацый навукі і культуры. Другі праект, фінансаванне якога ўжо павінна пачацца ў 97-м годзе, гэта праект пад назвай "Стварэнне інфармацыйнай інфраструктуры галіны "Культура", ён ужо прайшоў адпаведную дзяржаўную экспертызу. Гэта наша практыка. Вынікам рэалізацыі такіх праектаў стануць складаныя буйныя сістэмы, мэта якіх — забеспячэнне грамадзянам і арганізацыям нашай рэспублікі хуткага доступу да дакладнай інфармацыі ў галіне культуры. Вядома, з дапамогай камп'ютэрнай тэхнікі.

**— Можна дакладна казаць, што ў накірунку інфарматызацыі працуе той, хто выбрабляе і прадае камп'ютэры, хто працуе ў сродках масавай інфармацыі ці мае да іх пэўнае дачыненне. Як выглядае Ваш канкрэтны прадукт, які можна "памацаць"? Вы кажаце пра добрыя, але абстрактныя, няхай і асвечаныя дзяржавай, праекты. Значыць практычна Вы ствараеце камп'ютэрныя праграмы і сеткі?**

— Я б сказаў, хутчэй стварэнне ўмоў, якія дазваляюць укараняць тэхнічныя дасягненні для патрэб культуры. Мы зараз не толькі даем фундаментальныя веды студэнтам, але навучаем будучых музыкантаў, мастакоў, літаратараў працаваць з камп'ютэрнай тэхнікай. Музыкантаў мы навучаем працаваць з музычнымі праграмамі, яны атрымліваюць магчымасць хутка выдаваць нотныя тэксты, аператыўна распрацоўваць музычныя канструкцыі. Мастакоў — працаваць з графічнымі сістэмамі, літаратараў — апрацоўваць тэксты. Вось Вам самы просты ўзровень. Авалоданне тэхнічнымі сістэмамі кардынальна мяняе методыку навучання — тое ж авалоданне прасторавай кампазіцыяй з дапамогай графічных сістэм дазваляе вучыцца на парадак хутчэй. Нам ва універсітэце ўдалося адкрыць спецыялізацыю — інфармацыйныя сістэмы ў культуры. Гэта будуць спецыялісты, якія змогуць канкрэтна ажыццяўляць, як Вы кажаце, "абстрактныя" навуковыя праграмы. Мы маем ужо адпаведныя групы на першым курсе, якія гэтым займаюцца.

**— Гэта унікальны праект, калі адначасова з дзяржаўнай праграмай рыхтуюцца кадры, якія яе ажыццяўляюць.**

— Так, гэта унікальна. І стала магчымым, дзякуючы падтрымцы рэктарата Беларускага універсітэта культуры, яго супрацоўнікаў.

**— Што зменіцца ў культуры пасля ўвядзення Вашых праграм — праз 5 — 25 гадоў? Скажам, кожны стане літаратарам, мастаком і музыкантам? І кожны здолее сфарміраваць сваё творчае асяроддзе?**

— Стварэнне інфармацыйных сістэм мае дзве галоўныя мэты: хуткае навучанне людзей, якія зараз па розных прычынах адлучаны ад культуры, і ўсталяванне трывалых сувязяў і ўзаемадзеяння паміж культурамі свету. Нельга сказаць, што беларуская культура гіне, яна ёсць і будзе. Але трэба ўзмацніць яе распаўсюджванне, унутраныя сувязі і знешнія. Нам трэба спрычыніць шырокія масы да дакладных навукова абгрунтаваных ведаў.

**— Пакуль будуць распрацоўвацца глабальныя дзяржаўныя праграмы, ці можа шараговы чытач нашай газеты (мастак, літаратар, музыкант) прыйсці да Вас і павучыцца працаваць з камп'ютэрам, удзельнічаць у Вашых праектах? Прычым, у любым выпадку ўзаемакантакт з зацікаўленымі асобамі будзе карысным і для Вас. Ці можа нумар газеты з гэтым інтэрв'ю быць пропускам на Вашыя заняткі?**

— Для нас заўсёды на занятк і на мерапрыемствы прыходзяць госці. Калі ласка, мы адкрытыя для кантактаў.

**Гутарыў Алесь ТУРОВІЧ**




Акваторы-я

# ТАНЦЫ Ў КАРДОННЫХ СКРЫНЯХ

**Ірына БАРАВАЯ**

На сцэне Рускага драматычнага тэатра ў Мінску прайшоў феерычны спектакль "Нерухомы падарожнік" тэатра Філіпа Жанці. Аўтар і пастаноўшчык Філіп Жанці пры супрацоўніцтве з Мэры Андэрвуд. Пранікнуць у падсвядомасць чалавека, яго таямнічы ўнутраны свет праз музыку, пластыку, каляравыя і светлавыя эфекты — вось асноўная мэта аўтараў пастаноўкі. Ці сталі гастролі тэатра Філіпа Жанці падзеяй у тэатральным жыцці сталіцы? Здаецца, так. Пераказваць змест "Нерухомага падарожніка" бессэнсоўна дый немагчыма. Гэта сапраўды трэба было бачыць на свае вочы. Што ж тычыцца фактаў, дык тэатр Філіпа Жанці існуе ўжо 14 гадоў. Штаб-кватэра яго знаходзіцца ў Парыжы, але свайго будынка ён не мае. Няма таксама сталай трупы: акцёраў набіраюць на кожны спектакль, і пасля прэм'ернага паказу ў Парыжы тэатр вандруе па французскай правінцыі, а потым — і па замежжы. Тэатр наведвае практычна ўсе еўрапейскія краіны, і акцёры выступаюць у спектаклі да той пары, пакуль ён мае поспех у гледачоў. А потым пачынаецца новы цыкл. У адрозненне ад нашых тэатраў з велізарнымі штатамі тэатр Філіпа Жанці вельмі кампактны: гэтым разам у трупе было сямёра акцёраў і яшчэ некалькі чалавек, адказных за рэквізіт, гук і святло. Вандруе тэатр на сваім аўтамабілі.

Рускі тэатр імя Горкага трапіў у гастрольнае кола французаў невыпадкова — менавіта тут трупа Жанці выступала паўтара гады таму, і тады гасцям спадабаліся і сцэна, і арганізацыя і, натуральна, шчырая рэакцыя мінскай публікі. Прыкладна праз год мы можам разлічваць на новую сустрэчу з імі, і калі ў вас будзе магчымасць — наведайце іх спектакль. Па словах галоўнага рэжысёра Рускага тэатра Яўгена Агурцова, тое, што робіць Філіп Жанці, — для нашых тэатраў справа будучыні.

Стылістыку тэатра цяжка акрэсліць адным словам, але калі такое слова патрэбна, я скажу — постмадэрн. Містэрыя тут раптам ператвараецца ў балаган, цыркавая рэпрыза — у філасофскую гульню, а палатно жывапісца-класіцыста — ў звычайную паштоўку (годзе! хіба ўвогуле быў той арыгінал? Парадыйная стылізацыя — гэта сучасная рэчаіснасць мастацтва). Да таго ж пастаноўшчыкі выкарыстоўваюць візуальныя прыёмы, уласцівыя хутчэй тэлевізіі ці відэа-арту, чым тэатру (мантаж і калаж). Сямёра дзеючых асоб спектакля — адначасова і персанажы-гратэскі, і дэміургі, якія ствараюць свет і дораць жыццё лялечным істотам, і гарэзлівыя чэрці, якія нават не заўважаюць, што падчас іх валтузні разбураецца гэты новаствораны свет. Падобна таму, як у калейдаскопе каляровыя шкельцы пры кожным павароце складваюцца ў іншы ўзор, так і персанажы "Нерухомага падарожніка" імпэтна пракручваюць усё кола магчымых пераўвасабленняў. А калі гэтыя магчымасці вычарпаныя, нібыта перагортваецца старонка і пачынаецца наступны сюжэт — наступная гульня.

Сэнсавая нагрузка кладзецца ў спектаклі на пластыку і візуальны рад. Тэкст гранічна ўмоўны, у ім спалучаюцца цытаты і рознастылёвыя фрагменты, а гучыць ён на французскай, ангельскай, рускай, італьянскай ды іншых мовах. Бо як вызначыць, на якой мове размаўляюць нашыя фантазіі, надзеі, страхі, пачуцці? У пачатку было Слова — так, у пачатку чалавечай свядомасці. Але ў пачатку пачаткаў — была Цішыня.

Карані тэатра Жанці можна ўгледзець у народным тэатры, у цырку, і ў "тэатры абсурду". Узгадваюць жа ўсе менавіта Льюіса Кэрала — мабыць таму, што ў летапісца прыгод Алісы і бацькі (ці не дзядулі?) "чорнага гумару" прынцып ГУЛЬНІ стаў агульным прынцыпам пабудовы свету. Прафесар матэматыкі Ч.Л.Доджсан (Льюіс Кэрал — анаграма яго сапраўднага імя) вывеў, што шлях класічнай логікі вядзе да парадокса, што двухсэнсоўнасць любога паняцця можа выбухнуць у небяспечнае падарожжа па той бок люстэрка і што ўсе спробы ўпарадкаваць свет па ўласным разуменні асуджаныя на правал. Рэальны парадак рэчаў суадносіцца хутчэй з логікай абсурднай. Напрыклад, гадзіннік, што спяшаецца на пяць хвілін, ніколі не паказвае дакладнага часу. Значыць — па Кэралу-Доджсану — трэба аддаць перавагу таму гадзінніку, што ўвогуле стаіць: па меншай меры, ён не будзе хлусіць двойчы на суткі. Гульня — гэта свабода. Як лічыў філасаф-экзістэнцыяліст М.Хайдэгер, гульня — гэта магчымасць, якая адкрывае сябе насустрач волі чалавечага ўчынку. Гэта прастора спрэчкі паміж смяротным і боскім, зямным і нябесным. І натуральна, што ў такой прасторы акіян можна вырабіць з цэлафану, а Ноеў каўчэг — з кардоннай скрыні. Пустыня можа быць папяровай, а мегаполіс — пабудаваным са скрынак і бляшанак. Матэрыялы трэба выкарыстоўваць самыя простыя — але гэта зусім не гарантыя, што вам удасца ўключыць іх у такое відовішча, якое стварыў тэатр Філіпа Жанці. Узгадайце яшча — "Гульня ў бісер" Г.Гесэ. "Гульня ў класікі" Х.Кортасара. І рэалія пакоя смеху, у якім чакаюць прыходу Невядомага — музыка настойліва нагадвае аб ягонай нябачнай прысутнасці.

Гульня — гэта шчырасць і працілегласць насілля, якое скажае не толькі існасць гульні, але й усю звычайную рэчаіснасць. Там, дзе ў гульню ўносіцца элемент жорсткасці, дзе пачынаецца насілле, нараджаецца антысвет Зла і Жаху, у якім далейшае жыццё немагчыма. Няхай нават жыццё і сцэнічнае. Калі персанажы "Нерухомага падарожніка" перасякаюць гэтую мяжу, яны "гінуць" — гасне святло і наступае END GAME, як у гральным аўтамаце. Гінуць — каб уваскрэснуць у наступным сюжэце. І так — пакуль не перагорнута апошняя старонка. Жыццё — тэатр, усе мы — больш ці менш удалыя акцёры. Гульцы? Ці мо "нерухомыя падарожнікі"?

ВІНШУЕМ!

*Генадзю Шкуратаву, акцёру Віцебскага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я.Коласа нададзена ганаровае званне — Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь!*



ВІНШУЕМ!

# УМОВЫ ДЫКТУЕ ЖАНЧЫНА. АКТРЫСА. МАЦІ.

**Кацярына ВАРАНЬКО**

Бадай, гэтыя словы дастаткова поўна малююць вобраз нашай суайчынніцы Лідзіі Міхайлаўны Давідовіч — артысткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы.

На купалаўскай сцэне Л.Давідовіч дэбютавала пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Тут яна набыла прафесійны гарт, тут адчула непаўторную радасць артыстычнага зліцця з вобразам. І крытыкі і гледачы з самага пачатку творчай кар'еры Л.Давідовіч адзначалі яе незвычайную арганічнасць у ролях нацыянальнага народнага характару і задавалі пытанне, адкуль такое глыбокае веданне жыцця ў маладой артыстцы, гараджанкі? Нарадзілася яна ў Гродне 25 снежня 1936 г., але заўсёды ганарылася сваім сялянскім паходжаннем. Бацькі Давідовіч доўгі час жылі на маленькім хутарку ў Заходняй Беларусі. Яны шмат працавалі: было пяцёра дзяцей, Лілія — апошняя. І хоць не ўбачыла яна таго хутара (сям'я пераехала ў Гродна), але ж нешта засталося ў крыві, перадалося ад бацькі і маці, ад іх любові да зямлі. Магчыма, гэта нешта і з'яўляецца ў асобе Лілії Міхайлаўны прадвызначальным, той спадчынай, без якой не стала б яна народнай артысткай Беларусі. Актрыса лічыць, што ад беларускага народа набыла яна "мову сакавітую, песню чыстую, душу спагадлівую". Потым усё гэта адгукнулася, вылілася ў яе творчасці, асабліва ў вобразе Ганны Чарнушкі. Тройчы ўвасабляла Л.Давідовіч гераіню мележаўскай "Палескай хронікі". Зусім маладзенькай артысткай атрымала яна ролю Ганны ў радыёспектаклі "Людзі на балоце". Слухачы палюбілі яе голас, непаўторныя інтанацыі. Потым знялася ў тэлеспектаклі рэжысёра А.Гутковіча, які быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР за 1966 год. У ліку стваральнікаў лаўрэатам стала і Лілія Давідовіч. Тэлебачанне тады здавалася сапраўдным цудам, яно мела прыхільных і зацікаўленых гледачоў, і пастаноўку ўбачылі па ўсёй рэспубліцы. Давідовіч пачалі пазнаваць, ёй дзякавалі, пісалі пісьмы. Яна стала знакамітасцю. І калі ў тэатры ўзялі да работы "Людзей на балоце", зусім натуральна, што Ганну прапанавалі сыграць Л.Давідовіч. Яна "пражыла" ў мележаўскіх Куранях і Глінішчах 17 гадоў і стала ўвасабленнем Ганны — моцнай, дзёрзкай, цэльнай, няломнай і, разам з тым, пяшчотнай натуры. За 35 гадоў работы ў тэатры, на радыё і тэлебачанні Давідовіч пражыла столькі жаночых лёсаў, столькі розных пачуццяў і адценняў кахання, што, бадай, з іх можна скласці своеасаблівую энцыклапедыю жаночага сэрца. Усе гераіні актрысы — жанчыны са складаным лёсам, якім давялося прайсці праз вялікія выпрабаванні на шляху да свайго ўласнага шчасця. Душэўна чыстыя, шчодрыя натуры, яны імкнуліся, кожная па-свойму, прыносіць карысць людзям, марылі пра каханне і кахалі — самааддана і верна. Гледачы любілі і заўсёды чакалі на сцэне Лілію Давідовіч — Валю ("Рускія людзі" К.Сіманава), Шафак ("У ноч зацьмення месяца" М.Карыма), Лаўру ("Эшалон" М.Рошчына), з цікаўнасцю сустракаліся з Алай Шындзінай ("Мы, што падпісаліся ніжэй") і Раяй ("Пагарэльцы" А.Макаёнка). Чалавечая адметнасць бесшабашнай Ганны ў "Плачы перапёлкі" і эмацыянальнасць, інтэлект, неардынарнасць жанчыны ад Бога — Рагнеды ў спектаклі "Звон — не малітва" па п'есе І.Чыгрынава, чароўная жаноцкасць, па-арбузаўску прывабная прымхлівасць Любы ва "Успаміне" і ціхі адчай жанчыны ў "Парозе" А.Дударава радуюць сустрэчай з сапраўдным акцёрскім талентам.



Непаўторныя шматлікія ролі Лілії Давідовіч. Непаўторная яна і актрыса. Іграць на сцэне — яе прызначэнне. Здаецца, у самой жанчыны — усё для тэатра: стромкая постаць, зменлівы, жывы, прыгожы твар і выразныя вочы... І жыццярадаснасць. І вынослівасць. І смеласць. І ўважлівасць да людзей, і рэдкая, бескампрамісная шчырасць...

ЛЯ ЗАМЕЖНАГА ФАНТАНА

# ПРАФЕСІЯНАЛ З АМЕРЫКІ

*Адыходзячы год ізноў падарыў нам некалькі цудоўных кінематаграфічных святаў. Мабыць, існуе нейкая заканамернасць у тым, што колькасць розных кінафэстаў павялічваецца разам з ростам складанасцей у галіне кінавытворчасці. Ужо колькі гадоў нашыя кінарэжысёры спрабуюць існаваць у новай культурнай прасторы, сумяшчаючы ідэалагічную незалежнасць з эканамічнай. І тым больш цікавай мне падалася адна з сустрэч на Міжнародным кінафестывалі ў Санкт-Пецярбургу "Пасланне да чалавека".*

*Жэня Кіперман з'ехаў з Радзімы (былога Ленінграда) за мяжу, дзе набыў прафесію кінарэжысёра. Ён — прадстаўнік новай генерацыі эмігрантаў-кінарэжысёраў у Амерыцы.*

*Фільм Кіпермана "Я адпомшчу за цябе, Яга!" дэманстраваўся на фестывалі ў конкурснай праграме па намінацыі дэбютаў. Гэта вытанчаная, з бліскучым валоданнем гумарам, тактам, віртуозным валоданнем жанрам і стылем, карціна, была бясспрэчна кандыдатам на Галоўны прыз. Але яго атрымала суайчынніца Жэні амерыканка Марыя Кон за стужку "Праяўленне" хаця фільм "Я адпомшчу за цябе, Яга!" шматлікія ўдзельнікі фестывалю назвалі самай прафесійнай і яркай стужкай конкурснай праграмы.*

*Пра што гэта невялікая, на 30 хвілін, кароткаметражная стужка з незвычайнай назвай?*

*Фільм створаны ў жанры анекдота. Галоўны герой — малады чалавек, неадукаваны, але эмацыянальны, адкрыты для мастацтва хіпі, аднойчы трапляе ў оперны тэатр, на спектакль "Атэла". Яго імкненне выправіць памылку Шэкспіра і пакараць злачынцу Яга ледзь не каштавала жыцця выканаўцу гэтай ролі. Аднак бліскучы імправізацыйны расказ Акцёра пра "сапраўдную" сітуацыю, дзе яго персанаж Яга — толькі Ахвяра, дапамагае яму ўратавацца, але пад пагрозай аказваюцца выканаўцы "станоўчых" роляў... Фільм зроблены на адным дыханні, таму што аўтары стужкі прабалансавалі на тонкай грані паміж густам і "чарнухай". Работа маладога рэжысёра ў стылістыцы чорнага гумару ўразіла і незвычайным для дэбютанта пастановачным размахам. Цікава, што Жэня ў дадзеным выпадку выступіў не толькі ў якасці рэжысёра, але і прадзюсера, і выканаўцы некалькіх роляў (у тым ліку — адной жаночай).*

*У праграме фестывалю быў арганізаваны паказ работ маладых рэжысёраў Нью-Ёркскай школы мастацтваў, а Жэня Кіперман прадстаўляў Калумбійскую школу.*

**— Чым адрозніваюцца гэтыя вучэбныя ўстановы? Мяркуючы па фільмах, таленавітыя стужкі ёсць і ў калумбійцаў, і ў рэжысёраў з Нью-Ёрка.**

— Так, але Нью-Ёркская лічыцца больш прэстыжнай, сярод яе выпускнікоў шмат славутых рэжысёраў. Мне здаецца, яны проста багацейшыя. Гэта датычыць абсталявання, розных тэхналагічных магчымасцей.

**— Як адбываецца працэс навучання ў кінашколах Амерыкі?**

— У Штатах ты ўсё павінен рабіць сам. Мушу падкрэсліць, што расійская традыцыя духоўных зносін паміж майстрам і яго вучнямі больш магутная і сур'ёзная. І, зразумела, узровень выкладчыкаў у былым Саюзе быў вышэйшы. У амерыканскай кінашколе няма ніякай гаворкі пра прафесійную, духоўную сувязь паміж старэйшымі і моладдзю. Так, там ёсць тэхніка, абсталяванне і багаты фільмафонд. Глядзі, вучыся, здымай — і ўперад. Мне пашанцавала. Калі я працаваў над сваім фільмам, кіраўнікі кінашколы распрацавалі нарэшце індывідуальны курс, які і прадугледжваў "інтымныя" сустрэчы майстроў са студэнтамі. Адаслалі лісты такім карыфеям як Олтмэну, Вудзі Алену, Форману і іншым. Але ніхто не адгукнуўся. Афіцыйна Мілаш Форман лічыцца нашым загадчыкам кафедры, аднак яго ніхто ў вочы, як кажуць, не бачыў.

**— Вам пашанцавала, таму што Вы былі сведкам гэтага намеру — нарэшце звесці розныя пакаленні рэжысёраў?**

— Мне дапамагла мая... абыякавасць да гэтага. Я проста тыкнуў пальцам у першае прозвішча. І мне пашанцавала. Дэні Джонс аказаўся не толькі выдатным тэатральным рэжысёрам, ён таксама паставіў шмат кінафільмаў з удзелам такіх зорак, як Роберт дэ Ніра, Энтані Хопкінс, экранізаваў творы Кафкі. Нашы з ім адносіны нагадвалі айчынную традыцыю "майстра — вучань". Я прыязджаў да яго, ён шмат са мной займаўся, растлумачваў розныя прафесійныя рэчы. Улічыце, што Джонс — звышзаняты чалавек. Але ён мне дапамагаў. Дзякуючы яму, мы атрымалі магчымасць здымаць оперныя сцэны ў сапраўдным тэатры ў Брукліне, таму што Джонс нейкі час быў там мастацкім кіраўніком, і за здымкі мы грошай амаль не плацілі. Ведаеце... (Жэня смяецца) усе літаральна ...адурэлі, што дэбютант змог здымаць у тэатры, дзе дагэтуль здымала галівудская група "Сіціхол" сцэну з Ал Пачына. Калі я бачыў свой бюджэт, мне было даволі сумна, але калі я ўбачыў іх бюджэт ("Сіціхол") — 100 тысяч даляраў, мне стала смешна.

**— Джонс аказаўся адзіным майстрам, які дапамог Вам?**

— Ведаеце, мне некалькі разоў пашанцавала. Я выбраў цікавага мастацкага кіраўніка. Ральф Розэнблюм — выдатны мантажор, які зманціраваў пяць фільмаў Вудзі Алена, працаваў разам з Сіднеем Люмітам. Гэта класічная магутная асоба ў амерыканскім кінематографе.

**— Вашу стужку параўновалі з фільмамі бліскучага Вудзі Алена. І Вы ўжо некалькі разоў называлі яго прозвішча. Вы збіраецеся працягваць у кінематографе мастацкія пошукі гэтага рэжысёра?**

— О, тут ёсць адна розніца! Істотная. Вудзі Ален нарадзіўся ў Амерыцы, а я жыву там толькі сем гадоў...

**— Гэты тэрмін — недастатковы для ўваходжання ў іншую культуру?**

— Існуе такая гісторыя. Калі ў Феліні запыталіся: "Чаму Вы не здымаеце ў Амерыцы, Вас столькі разоў туды запрашалі? — ён растлумачыў: "Я не ведаю гэтай краіны, таму не ведаю, як там здымаюць". Гэта і ёсць адказ, напэўна. Мне здаецца, што нашаму пакаленню працэс уваходу ў іншую культуру будзе цяжкаваты. Але час ідзе. Я быў першым студэнтам-эмігрантам у Калумбійскай кінашколе, а зараз карціна змянілася. У Нью-Ёркскім універсітэце, дзе я выкладаю ангельскую мову (студэнтам-эмігрантам), калі стаіш каля ліфта, чуеш расійскую мову часцей за амерыканскую. Так што цяжка прагназаваць, як будзе адбывацца працэс інтэграцыі розных культур.

**— Хто, на Ваш погляд, самы ўдачлівы рэжысёр-эмігрант з былога СССР?**

— Андрэй Канчалоўскі. Ён заваяваў поспех з камерцыйнага боку. У нейкім сэнсе — гэта гіганцкі чалавек. Ён навучыўся рабіць у кінематографе тое, што чалавек з Усходняй Еўропы не змог бы. Гэта — маштабныя, шматмільённыя здымкі, розныя цікавыя эфекты. Так, я згодзен, што яго амерыканскія фільмы — пустое мастацтва, але людзям яго стужкі падабаюцца, бо адпавядаюць густу масавага гледача.

**— Вы самі ўзялі на сябе і, здаецца, даволі паспяхова функцыі прадзюсера. Што Вы будзеце ўлічваць у першую чаргу?**

— О, тут шмат момантаў: з ідэі да назвы. Вы ведаеце славутую ангельскую карціну "Чатыры вяселлі і адно пахаванне", якая атрымала шмат узнагарод, у тым ліку і "Оскара"? Але калі да кіраўніка адной з дыстрыб'ютарскіх кампаній прыйшлі са сцэнарыем гэтай стужкі, той адразу адмовіўся — з-за назвы. Па-ранейшаму ўжыванне разам такіх слоў, як вяселле і пахаванне — лічыцца жудасным. Наогул назве твора надаецца ў амерыканскім кіно вялізная ўвага, нават ёсць цэлы курс ва універсітэце.

Шмат увагі надаецца і візуальна-эфектнаму рашэнню. Так, стужка Міхалкова "Пяць вечароў" не магла мець поспех у Амерыцы, таму што здымкі камерныя, толькі ў пакоі.

**— Як Вы ставіцеся да работ Інгмара Бергмана, якія ён часта здымаў "у інтэр'еры", і наогул, якой эстэтычнай плыні Вы аддаяце перавагу?**

— Фільмы Бергмана мне не падабаюцца. Гэта чыста суб'ектыўны момант. Але мне здаецца, што і ў Бергмана, як і ў Льва Талстога, адсутнічае пачуццё гумару.

Я — за прастату ў мастацтве. У жыцці таксама, як высвятляецца, усё значна прасцей, чым іншы раз здаецца. Ідэальным для мяне, Вы гэта ўжо зразумелі, з'яўляецца Вудзі Ален са сваім аўтарскім кінематографам, які і ёсць анты-Галівуд. А з другога боку, мяне вабяць такія магутныя прафесіяналы мастацкага кіно, як Джозеф Шумахер. Ён валодае мастацтвам ствараць на экране свет, у якім усё рушыцца, узрываецца, але ўсе гэтыя жахі не бессэнсоўныя. За імі — і вобраз, і думка.

Апошнім часам самае вялікае ўражанне на мяне зрабіла славутая стужка француза Люка Бесона "Прафесіянал". Гісторыя ўзаемаадносін кілера і дзяўчынкі-падлетка. Так, гэта абсалютна камерцыйны фільм, але тонкі, з густам, у якім адчуваецца еўрапейскі дух. Я глядзеў стужку чатыры разы і не выявіў ніводнага выпадковага кадра, усё так класна стылізавана. Бесон — не геній, не Феліні, і, напэўна, яго фільм не можа быць духоўнай аддушынай, але як ён умее прафесійна працаваць!

*Жэня не захацеў падрабязна размаўляць пра свой галоўны самастойны праект. Вядома толькі, што дзеянне будзе адбывацца і "там" і "тут". І яшчэ мы былі сведкамі таго, як імкнуўся ён глядзець кінастужкі, створаныя яго былымі суайчыннікамі, бо па-ранейшаму наша кінамастацтва амаль не ўваходзіць у багатыя замежныя фільмафонды. А ў маі 1997 года ён мае намер прыехаць да нас у Беларусь, бо даў згоду на ўдзел у журы чарговага Міжнароднага жаночага кінафестывалю ў Мінску.*

**Гутарку з Жэнем КІПЕРМАНАМ вяла Галіна ШУР**



*На здымку: кадр з фільма "Я адпомшчу за цябе, Яга!". Жэня Кіперман у галоўнай ролі мсціўца за "справядлівасць".*

ПА ТОЙ БОК ЭКРАНА

# "УСЯ СПРАВА Ў КАПЕЛЮШЫ", АЛЬБО "ТЭЛЕБАЧАННЕ — ДЗЕЦЯМ"

**Генадзь ПАПЛАЎСКІ**

Агульнавядома: любая копія горш за арыгінал. Расійскае тэлебачанне "творча" перапрацоўвае некаторыя ТВ-праграмы Захаду ці Амерыкі, а БТ — расійскія. Мы ж, тэлегледачы, іншы раз атрымліваем нават не "second", а "third hand". Адразу пра ўсю вялікую краіну, якая называецца Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй Рэспублікі Беларусь казаць не магу, а вось што датычыцца адной рэдакцыі дзіцячых і юнацкіх праграм...

... Пачнем з праграмы для самых маленькіх, з "Калыханкі". Не шкадуючы часу, я прагледзеў шмат "Калыханак" і, скажу шчыра, спужаўся. Буслік і Цімошка, сябры майго дзяцінства, пайшлі, напэўна, на заслужаны адпачынак, а ім на змену прыйшлі Пік і Пімачка. "Том і Джэры", знакаміты серыял дзеда Дыснэя, ажыццявіўся на нашым тэлебачанні ў выглядзе двух шэрых пацучкоў. Але без смешнага і жыццярадаснага выгляду амерыканскіх прадстаўнікоў казачна-цацачнага свету. Так, на фоне расійскіх і амерыканскіх дзіцячых праграм нашы лялькі выглядаюць нейкімі шэрымі, забітымі і зусім не цікавымі. Самая прывабная — Тыхтоша, "іншапланецянка" з характарам непасрэдным і цікаўным, як у дзіцяці. Яе непрадказальныя паводзіны падабаюцца болей, чым шэрыя пацучкі ці аблезлая старая цацка Ліса.

Для самых маленькіх існуе таксама перадача студыі "Калыханка" — "Мульціклуб". Але чамусьці яго вядучы нагадвае істоты з амерыканскай праграмы "Кактус і К°". Не знешне, зразумела (хаця колер у абедзвюх цацак зялёны), характар і паводзіны амаль аднолькавыя.

Яшчэ адна перадача, прызначаная для нядзельнага прагляду носіць назву "Уся справа ў капелюшы". І капялюш гэты на галовах у людзей таленавітых.

Дзякуючы мноству цікавых знаходак праграма атрымліваецца і вясёлай, і жартаўлівай, і павучальнай. Ды і падарункі, якія атрымліваюць маленькія ўдзельнікі, уражваюць арыгінальнасцю.

У студыі "Калыханка" — невялікі тэматычны аб'ём праграм. Зразумела, што ідэі — не пустазелле, самі так проста не вырастаюць, у рукі не даюцца, іх трэба прыдумляць, ажыццяўляць, а гэта зусім не лёгка. Сёння фінансавыя магчымасці дзіцячай рэдакцыі перашкаджаюць дасягнуць узроўню стандарту цывілізаваных краін.

Дзецям сярэдняга ўзросту ў аўторак і суботу дзіцячая рэдакцыя прапануе паглядзець праграму "Усё пра ўсё". Калі паспрабаваць зрабіць параўнальны аналіз у рамках адной праграмы, то з упэўненасцю можна сказаць — перадача, як кажуць, "паднялася". Аўтары пашырылі ўзрост сваёй аўдыторыі, далі магчымасць "разгарнуцца" перадачы тэматычна. Падабаецца структура праграмы, яе рытм, дынаміка, сучасны стыль. Жвавым, цікаўным, непаседлівым падлеткам даспадобы 25-хвілінная забаўляльна-пазнавальная інфармацыйная праграма. Апошнія праграмы сталі тэматычнымі, а не зборнымі, што надае ім больш сэнсу. На жаль, іншы раз непрафесійнасць маладых аўтараў, якія ствараюць сюжэты, збліжаюць праграму з аматарскім тэлебачаннем.

Нашаму дзіцячаму тэлебачанню нярэдка чамусьці ўласцівы бязглузды плоскі гумар і здзек над мовай, прычым і над расійскай, і над беларускай аднолькава. Стала нормай, калі ў кадры нехта памыляецца або блытаецца — "як у прамым эфіры", а значыць, "хуткая падача інфармацыі" — кажуць некаторыя тэлегледачы. Прабачце, даражэнькія, але аб якой хуткай падачы інфармацыі можа ісці гаворка, калі, па ўсіх меркаваннях, сюжэты робяцца мінімум за тыдзень? Замест культуры мовы нам падаецца мова з лексічнымі і фанетычнымі памылкамі, якія ніхто не рэдагуе. Ну добра, беларускай не валодаем, а расійская — "яна ж як родная?" Але чуем мы ў выніку "трасянку", на якой размаўляюць тыя, хто недавучыўся, ці спецыялісты з радыё і тэлебачання, узводзячы яе ў гумар. Здзек над самім сабой? Сумны занятак. Аб якасці перакладу некаторых мультфільмаў на беларускую мову можна было б напісаць асобную дыпломную работу. Агульнавядомы факт, што ў ЗША не праходзяць увогуле не толькі мультфільмы, але і простыя блокі рэкламы, калі яны дрэнна агучаны і бачна разыходжанне вымаўлення акцёраў з агучваннем. На нашым тэлебачанні пра гэта і думаць не даводзіцца. Добра, што ёсць людзі, якія ўвогуле займаюцца агучваннем і перакладам.



Невядома, хто з'явіўся раней — расійская "Ранняя зорачка" ці беларускі "Тэлебом", але падабенства праграм адчувальнае. Вядучая і аўтар праграмы Таццяна Сінкевіч спрабуе ісці сваім уласным шляхам. Выйшлі некалькі цыклаў перадач ("Талерка" Тэлебома, "Школа" Тэлебома і г.д.). Наяўнасць выканаўцаў розных накірункаў, шматлікія выязныя перадачы, прысвечаныя мастацкім падзеям або асобным творчым людзям, працуюць на творчы поспех перадачы ў сваіх беларускіх гледачоў.

Асобна стаіць студыя "Акно", якая выпускае перадачы: "Напярэдадні будучыні" і "Целек-шоу". На жаль, адышлі ў гісторыю перадачы з файнай назвай "Класіка двароў". А задумка была вельмі цікавай і ўспрымалася гледачамі на "ўра". Філасофскі змест праграмы натхняў на разважанні, а рэжысёрскія знаходкі дапамагалі па-іншаму ўсвядоміць рэчаіснасць. Хаця прыколы і хохмы апошніх перадач "Целек-шоу" іншы раз не дацягваюць "да планкі".

Рэдакцыя дзіцячых і юнацкіх праграм знаходзіцца ў стане развіцця. Ёсць шмат канцэпцый і задумак, некаторыя з якіх мы можам бачыць па тэлевізіі. Як, напрыклад, тэатралізаваная казка "Востраў натхнення", яна карыстаецца поспехам у юных тэлегледачоў розных узростаў.

Кажуць, што дзеці — самая патрабавальная аўдыторыя. Іх трэба ўвесь час здзіўляць, весяліць, крышачку пужаць і адказваць на шматлікія (з пункту гледжання дарослага — бязглуздыя) пытанні. Складана. А можа і не зусім. Трэба проста прыслухацца да дзяцей. Пачуць, што іх цікавіць. Вы лічыце, што яны самі не ведаюць? Вы не маеце рацыі! Вы ж дарослыя, сур'ёзныя людзі! Вы ж усё ведаеце! А можа і не зусім усё? А? Можа, сапраўды ўся справа ў капелюшы? Дык здыміце яго з вачэй!



*На здымку: рабочы момант запісу перадачы "Калыханка".*

# МАСТЫХІН



МАСТЫХІН




## "КОНІ — МАЯ СТРАСЦЬ..."

***З вядомым беларускім скульптарам Сяргеем БАНДАРЭНКАМ гутарыць Барыс КРЭПАК.***

**— Сяргей, твае творы сёння ўпрыгожваюць мастацкія музеі, карцінныя галерэі і прыватныя калекцыі Беларусі, Расіі, Галандыі, ЗША, Нямеччыны, Манака, Італіі, Бельгіі, Францыі. Выставы наладжваліся за мяжой, нядаўна — у мінскім Палацы мастацтва... І гэта ўсё за пятнаццаць гадоў творчай дзейнасці! Як у цябе гэта атрымліваецца?**

— Па-першае, у мяне добрая прафесійная школа. У мастацкай школе я вучыўся ў цудоўнага педагога і скульптара Леаніда Давыдзенкі, у тэатральна-мастацкім інстытуце — у Андрэя Бембеля, Анатоля Анікейчыка, Генадзя Мурамцава, Анатоля Арціновіча; тры гады стажыраваўся ў творчай майстэрні Акадэміі мастацтваў СССР у Заіра Азгура. Па-другое, проста шмат працаваў. У асноўным у жанры анімалістыкі. Мая страсць — коні...

**— Так, сапраўды, па сваёй прыгажосці, зграбнасці і грацыёзнасці конь — адно з лепшых стварэнняў у прыродзе. Я ведаю, што ты адзіны ў Еўропе скульптар, які робіць "партрэты" коней з натуры. Гэта, відавочна, вельмі складана? Бо конь, у адрозненне ад чалавека, спецыяльна пазіраваць не будзе?**

— Гэта сапраўды так. Але мне ўдаецца ляпіць заўжды толькі з жывой натуры. Бо толькі так можна знайсці патрэбныя мне ракурсы, пачуццё аб'ёму, ліній, унутранай экспрэсіі. Мне "пазіравалі" многія коні — чэмпіёны свету, Еўропы, Алімпійскіх гульняў. Самым апошнім "натуршчыкам" быў арабскі скакун па мянушцы Legacy of Gold — Залатая легенда, фатаграфіі якога на працягу года друкаваліся на першых старонках самага прэстыжнага амерыканскага спецыялізаванага часопіса "The Arabian Horse Times"...

**— Распавядзі больш падрабязна.**

— У Мінеапалісе, у ЗША, я пазнаёміўся з Дэвідам Боксам, буйным уладальнікам арабскіх скакуноў, а я здавён марыў вылепіць менавіта такога каня. Я сказаў Дэвіду, што хачу адлюстраваць ягонага каня. Ён мне: выбірай любога. Я абраў "Залатую легенду". І ляпіў спецыяльна ў чыста амерыканскай, не вельмі характэрнай для каня наогул, "парадный", так бы мовіць, "выставачнай" стойцы. У прынцыпе, конь так не стаіць, але тут для мяне пастараліся дрэсіроўшчыкі. Самае цікавае, што праз тры месяцы гэты конік стаў чэмпіёнам ЗША!

**— Ці не прасцей было б вылепіць па фатаграфіі?**

— Не! Гэта быў бы іншы конь. Можа, і вельмі прыгожы, зграбны, але — іншы. Больш дакладна, было б створана ўражанне ад скакуна, але не партрэт. Натуральна, я магу ляпіць і па фатаграфіі, і нават — па памяці. Але вынік будзе іншым.



**— А як ты наогул "прыйшоў" у гэты рэдкі для айчыннай скульптуры жанр — анімалістыку?**

— Перакананы, у генетыпе кожнага нармальнага мужчыны закладзена любоў да якой-небудзь жывёлы: у кагосьці — да сабакі альбо кошкі, у кагосьці — да каня альбо каго іншага. У мяне — менавіта да коней. Вось і ўсё.

**— І свайго самага першага каня ты вылепіў...**

— Падчас вучобы ў Заіра Азгура. Гэта быў конік з Ратамскага іпадрома.

**— Хто, на тваю думку, лепшы анімаліст у Еўропе?**

— Рускі скульптар Пётр Клот. Другога Анічкавага моста з ягонымі striконнымі групамі, як у Пецярбургу, у свеце няма.

**— Вось тут, у тваёй майстэрні, акрамя коней, я бачу шмат твораў, звязаных з іншай мастакоўскай цікавасцю, умоўна кажучы, з метафарычным рэалізмам. "Ачалавечаныя" смаўжы, чарапахі, жабкі, драконы, прыгожыя аголеныя жаночыя постаці, вобразы неакласічнага плана — Пегас, Марс, торсы...**

— Так, мне падабаюцца такія сюжэты і тэмы. У іх я імкнуся выказаць не толькі свой час і адмысловыя метамарфозы чалавечага жыцця, але і ўласнае адчуванне і настрой. Скажам, у "Чарапасе" я хацеў бы ўвасобіць павольнасць і каструбаватасць нашай "перабудовы". Прычым зрабіў гэта яшчэ да сумнавядомай эйфарыі, якая пазней авалодала грамадствам...

**— Ты можаш прыадчыніць таямніцу сваёй творчай кухні? Я ведаю, што ты сам выконваеш літаральна ўсе стадыі стварэння скульптуры, пачынаючы ад лепкі мадэлі ў пластыліне і заканчваючы ліццём у бронзе?**

— Таямніцы тут няма. Проста я спрабую ўзнавіць страчаныя ў тэхналогіі мастацкага ліцця традыцыі. Пачынаючы ад пабудовы раз'ёмнага каркаса і да апошняга этапу — ліцця, уключаючы фармоўку, прамыўку, васкоўку, прапрацоўку па метале, таніроўку, — усё раблю сам. Хаця спалучаць у сабе мастака і тэхнолага-ліцейшчыка складана. Але гэта не ад добрага жыцця. Уяві сабе: каб адліць такога маленькага коніка ў Еўропе, трэба заплаціць ліцейшчыку каля дзвюх тысяч долараў! Такім чынам, даводзіцца рабіць усё самому, ахвяруючы сабой, сваім часам, творчасцю. І атрымліваецца, што 40 працэнтаў часу я займаюся ўласна творчасцю, а 60 — выдаткоўваю на ўсё астатняе.

**— Амаль у кожным еўрапейскім горадзе можна пабачыць конную статую. Ці будуць у нас на Беларусі калі-небудзь такія помнікі?**

— Апошні раз такую магчымасць 30 гадоў таму меў Аляксей Канстанцінавіч Глебаў, калі праектаваў для Віцебска конны манумент Льву Даватару. Сёння такой рэальнай магчымасці няма, і, мяркую, пры маім жыцці не будзе.

**— Тым не менш, будзем жыць спадзяваннямі. А раптам?..**



*На здымках:*
*Сяргей Бандарэнка.*
*Смоўж-1. Бронза.*
*Арабскі скакун "Залатая легенда" — чэмпіён ЗША. Бронза.*

## КОСМАС ЯНЫ ПЕРВЯКОВАЙ

**Толькі чатыры гады таму Яна Первякова скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў і за гэты час паспела ўзяць удзел у выставах не толькі на сваёй радзіме, але і ў прэстыжных галерэях Масквы — у галерэі ў Хамоўніках і ў "Галерэі Ражэ", не кажучы ўжо пра тое, што шэраг яе жывапісных палотнаў набылі прыватныя калекцыянеры Грэцыі, Расіі, Нямеччыны, Ізраіля.**



І вось напярэдадні Новага года ў мінскай мастацкай галерэі "Верхні горад" адкрылася яе першая персанальная выстава. Фантазія, вобраз, метафара, што вядуць чалавека да духоўнага ачышчэння, — так, мабыць, можна вызначыць сутнасць яе мастацтва. Сюжэты карцін і нацюрмортаў Яны заснаваны на рэмінісцэнцыях біблейскіх тэм, на фантастычным асэнсаванні рэчаў рэальнага свету, на настальгіі па няўлоўнаму мінуламу, якое іншы раз раптам прыходзіць, нібыта з космасу, у снабачанні; прыходзіць разам з вобразамі анёлаў і ўзвышана-чыстых людзей, амаль пазбаўленых плоці, з цудоўнымі птушкамі, жывёламі, кветкамі...



Так, мастацкае мысленне Яны касмічнае паводле сваёй прыроды, бо амаль кожны яе твор, ці то "Каханне", "Дабравесце", "Раство" альбо "Сон на ўзыходзе Месяца", "Валадар птушак", — гэта своеасаблівы космас, іншы раз наіўны, непасрэдны, але заўсёды "чалавечы", — цеплыня, спраецыраваная на палатно. У гэтым космасе — мінулае і сённяшняе, прастора і час, прадчуванне і памяць. Магчыма, таму Яна і імкнецца глыбока асэнсаваць розныя эстэтычныя і маральныя катэгорыі, звязаныя з ідэямі хрысціянства і Адраджэння, з рускім іканапісам і еўрапейскім жывапісам пачатку XX стагоддзя. І праз гэтае разуменне, памнажанае на асабістыя адчуванні, — знайсці свой уласны шлях у сённяшнім бясконцым свеце, цудоўным і шалёным, дзе надзея змагаецца з роспаччу, дабро — са злом, цемра — са святлом...

**Б.К.**

*На здымках:*
*Яна Первякова.*
*"Раство". Палатно, алей. "Каляды".*

## "Я ЎРАЖАНЫ ВАШЫМ ТАЛЕНТАМ..."



**На Беларусі гэты мастак мала вядомы, хаця ў Гомельскім рэгіёне ягоную творчасць добра ведаюць людзі, якія цікавяцца жывапісам. Ён зваўся Леанідам Паўлавічам Абрамовічам. Шаснаццаць гадоў таму ён пайшоў з жыцця, пакінуўшы пасля сябе не толькі багатую творчую спадчыну, але і шмат таленавітых вучняў, сярод якіх вядомыя зараз мастакі — Эдуард Агуновіч, Леанід Панамарэнка, Уладзімір Капшай.**

Карэнны беларус, ураджэнец Рэчыцы, Леанід Абрамовіч да вайны вучыўся ў Віцебскай мастацкай вучэльні ў І.Ахрэмчыка і Л.Лейтмана разам з А.Гугелем, Р.Кудрэвіч, А.Паслядовіч і В.Жоўтак, але Вялікая Айчынная перашкодзіла яму тады закончыць адукацыю. Ён пайшоў абараняць Радзіму, на фронце ваяваў мужна, пад Сталінградам быў цяжка паранены. Тым не менш пасля Перамогі паспяхова скончыў Харкаўскую мастацкую вучэльню.

Вярнуўшыся на Радзіму, у горад Рэчыцу, Леанід Паўлавіч цалкам прысвяціў сябе жывапісу. Паралельна вёў актыўную педагагічную дзейнасць у школах, шмат гадоў узначальваў студыю выяўленчага мастацтва Дома піянераў. Сярод ягоных блізкіх сяброў-мастакоў былі Сяргей Каткоў, Алег Луцэвіч, Яўген Пакаташкін, браты С. і А.Ткачовы, ягонай творчасцю цікавіліся Віталь Цвірко і Альгерд Малішэўскі.

Вось што напісаў у 1973 годзе Сяргей Пятровіч Каткоў у кнізе водгукаў на персанальнай выставе сябра: "Вы ідзеце ў мастацтве сваім непаўторным шляхам. Верныя свайму шчыраму пачуццю і жывому ўспрыняццю акаляючага свету, Вы здолелі ўлавіць і адлюстраваць на палотнах са здзіўляючай прастатой і непасрэднасцю не толькі аблічча беларускай прыроды, але і свае няпростыя чалавечыя роздумы, перажыванні, пакутлівую незадаволенасць сабой. Я ўражаны Вашым талентам і Вашай здзіўляючай любоўю да людзей, да мастацтва, Вашай чалавечай сціпласцю і шырынёй мастакоўскага кругагляду. Дзякуй Вам за сакавіты пленэрны жывапіс, за таленавітых вучняў, за творчую патрабавальнасць да самога сябе".

Творы Леаніда Абрамовіча — пейзажы, нацюрморты, карціны, эцюды, малюнкі — я ўпершыню ўбачыў у зборы ягонай удавы, Ларысы Андрэеўны, вядомага рэчыцкага ўрача, і ягонай дачкі Святланы, члена Беларускага Саюза мастакоў, а таксама ў майстэрні Уладзіміра Капшая. Убачыў — і быў уражаны: Божа, як мы ўсё ж такі не цэнім у нашай краіне свае таленты! Або, сапраўды, няма прарока ў сваёй Айчыне?

Перакананы, што такія творы, як "Сон. Матылёк", "Летні вечар", "Жоўтыя яблыкі", "На Дняпры", "Сярэбраны дзень", "Адліга", "У ваколіцах Рэчыцы" і многія іншыя, поўныя настрою, святла, паветра, імпрэсіяністкай разняволенасці і свежасці пачуццяў, маглі б сёння ўпрыгожыць кожны музей. Будзе вельмі шкада, калі палотны гэтага цікавага і своеасаблівага майстра назаўжды пойдуць з Беларусі, таму што ведаю: такая невясёлая перспектыва ўжо не за гарамі...

**Барыс КРЭПАК**

*На здымках:*
*Леанід Абрамовіч.*
*"На Дняпры". Малюнак.*



МАСТЫХІН

# ЯГОНАЯ СТЫХІЯ — ЖЫВАПІС



***Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, вядомы мастак і педагог Барыс Аракчэеў адзначыў сваё 70-годдзе персанальнай выставай, складзенай з твораў розных гадоў, пачынаючы ад першых сур'ёзных шматпостацевых карцін маладосці "пра час і пра сябе" і заканчваючы шматаблічнымі пейзажамі, нацюрмортамі і партрэтамі апошніх гадоў.***



Жывапіс, фактурны, рэльефны, "звонкі", — ягоная стыхія. І ў ім, у жывапісе, ён знайшоў сябе як сапраўдны каларыст, цікавы кампазітар і вечны шукальнік новых сюжэтаў. Ад тэмы Вялікай Айчыннай ён арганічна пераходзіць да тэмы Чалавека на зямлі, ягонай працы, ад эпічна-манументальных панарам Беларусі да яраслаўскіх архітэктурна-лірычных ландшафтаў, якія калісьці atачалі Максіма Багдановіча, ад палымнеючага свежасцю бэзу да залатога восеньскага харства старажытнага Заслаўя.

Ідэал, які сцвярджае мастацва Барыса Аракчэева, — рамантычна ўзвышаны. З дастатковай паўнатой ён увасоблены не якім-небудзь адным творам або нават групай твораў, а ўсімі разам, усёй творчасцю мастака, якая захоўвае цэласнасць на працягу ягонага шматгадовага творчага шляху. Рух, які здзяйсняе творца, нібы скіраваны ўглыб, да спазнання існасці чалавечага жыцця і прыроды, аказваецца таксама і рухам ушыркі.

Ягонае мастацтва надае адчуванне багацця і разнастайнасці жыцця, спароджанага багаццем ягонага ўласнага, ім створанага мастакоўскага свету.

**Б.К.**

*На здымках: "Туманная раніца на рацэ Сож". "Бэз ля студні".*

# ШТО СЁННЯ ПРАСІЦЬ У БОГА?



***Так называецца адна з карцін, дзе Уладзімір Гардзеенка адлюстраваў сябе месячнай ноччу са свечкай... Дык чаго ж прасіць беларусам у Бога пасля таго, як здарылася Чарнобыльская ўсяленская бяда?***

Так, менавіта Чарнобыль, ягоны непазбыўны боль і сум зрабіліся галоўнай тэмай твораў мастака, якія былі паказаны на ягонай юбілейнай выставе ў Палацы мастацтва. Былі тут і палотны іншага кшталту: пра Вялікую Айчынную, пра празрыстачыстую вясну, пра святочна-вясёлы Мінск, пра марозную зіму і яшчэ не закранутыя радыяцыяй берагі Прыпяці. Аднак Чарнобыль, які лёг чорным ценем Люцыфера на "малую радзіму" У.Гардзеенкі, стаў камертонам усёй экспазіцыі. Прыслухайцеся толькі да назваў некаторых палотнаў: "Замест некралога", "Час смутку", "Пеўні тут больш не спяваюць", "Перасяленцы", "Музыка мёртвых струн", "Чырвоныя дрэвы"... Боязна? Так. Але гэта было. Гэта ёсць. І ведаць гэта трэба. Як трэба ўсім нам бачыць той няшчаслівы край праз вочы і фарбы жывапісца, які ведае сваю паслячарнобыльскую радзіму не па фатаграфіях альбо аповедах відавочцаў. Ён — сам відавочца і сведка, які прайшоў з мальбертам не адзін дзесятак кіламетраў па гэтай параненай зямлі.

З кнігі водгукаў: "Гэта — нашыя вочы на Вашай выставе". Або: "Сёння я стала прыхільніцай У.Гардзеенкі — за напісаную фарбамі паніхіду па Беларусі". І яшчэ: "Ад Вашых карцін патыхае страхам".

Магчыма, гэта і так. Але страх трэба пераадолець! Дзеля жыцця. Чаго б гэта ні каштавала. Інакш — нашым дзецям і ўнукам будзе яшчэ больш складана. Дык папросім Бога дапамагчы ім быць здаровымі і духоўна прыгожымі, каб не ведалі яны, чаму дрэвы бываюць чырвоныя, а птушкі не спяваюць.

**Б.К.**

*На здымках:*
*"Малітва ночы". Палатно, алей.*
*"Мой анёл-ахоўнік". Палатно, алей.*



# НЕ АДЛУЧЫЦЬ АД ГІСТОРЫІ

***З'яўленне гэтай — першай (!) у жыцці Рыгора Клікушына персанальнай экспазіцыі з поспехам можна было б прымеркаваць не толькі да 75-годдзя з дня нараджэння мастака, але і да 25-годдзя негалоснай кампаніі яго адлучэння ад мастацкага жыцця Віцебска. Яго быццам бы не заўважалі ўвесь гэты час. Становішча, якое самому мастаку здаецца безвыходным. Існаванне быццам бы ў бязлюднай прасторы. Зняважаны гонар, запэцканае імя... "Мяне лічылі мастаком, — запіша Рыгор Клікушын у той час у сваім дзённіку, — але хутчэй за ўсё я ніколі не быў ім".***

У Віцебск Рыгор Клікушын прыехаў з Заходняй Сібіры адразу пасля заканчэння вайны. За плячыма былі два гады навучання ў Омскім мастацкім вучылішчы, пэўны вопыт педагагічнай дзейнасці. Ужо ў Віцебску Клікушын скончыў гістфак педінстытута і пачаў працаваць у мастацка-графічным педвучылішчы. Прага мастацкіх ведаў неўзабаве прывяла яго на мастацкае аддзяленне Маскоўскага завочнага паліграфічнага інстытута. Дыпломнай работай Клікушына стала мастацкае афармленне рамана Ч.Дзікенса "Олівер Твіст".

На працягу 15 гадоў Рыгор Клікушын працаваў спачатку ў вышэй названым вучылішчы, а потым і на мастацка-графічным факультэце педінстытута. Большасць станковых кампазіцый мастака створана ў гэты час. Лінарыты, малюнкі пяром і рэйсфедэрам, мастацкае афармленне кніг... Не вялікі, але на сёння вельмі паказальны і каштоўны для мастака і нашчадкаў скарб.

Замяшчэнне вядомага мастака В.Дзежыца пасля яго смерці на пасадзе загадчыка кафедры малюнка і жывапісу адыграла ў жыцці Клікушына, здаецца, ракавую і разам з тым лёсавызначальную ролю. "У калектыве мастакоў кафедры цяжка было пазбегнуць сутыкненняў характараў, праяў зайздрасці, — успамінае Рыгор Клікушын. — Сярод выкладчыкаў нехта быў незадаволены тым, што я не даю яму пасады старшага выкладчыка, камусьці я выгаворваў за парушэнне дысцыпліны, іншаму была патрэбна майстэрня, нехта марыў стаць кіраўніком..."

Дзякуючы ўласнай прынцыповасці і адначасова даверлівасці, шчырасці мастак аказаўся ўцягнутым у брудную справу. Па горадзе папаўзлі самыя разнастайныя плёткі. Чуткам, здавалася, не было канца. Абгавораны, ён трапіў у такія абставіны, што быў вымушаны падаць заяву аб звальненні з інстытута. Далейшы яго лёс вырашалі сумна вядомыя камандна-бальшавіцкія метады савецкай бюракратыі. Клікушын быў зняты з уcіх грамадскіх пасад, выключаны з Саюза мастакоў, адхілены ад работы нават у Таварыстве аховы помнікаў. Амаль зацверджаныя Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй (Масква) дакументы на прысваенне звання дацэнта былі адазваны ў Віцебск... Яго прозвішча стараліся не прыгадваць у выданнях, артыкулах, энцыклапедыях, творамі мастака ніхто не цікавіўся. У Клікушына забралі майстэрню, забаранілі рабіць персанальную выставу да ўласнага пяцідзесяцігоддзя. Зацкаваны сістэмай мастак не бачыў ніякага сэнсу ў далейшай творчасці, яго назаўсёды пакінула натхненне і жаданне займацца станковай графікай і афармленнем кнігі.



Але, дзякуй Богу, Рыгор Клікушын усё ж такі здолеў перажыць гэткае "публічнае ўкрыжаванне". І можа, нават, як ні кашчунна гэта гучыць, дзякуючы гэтым падзеям канчаткова знайшоў сваё прызванне. Сапраўдным выратаваннем для Клікушына стала праца над шрыфтамі, якой ён прысвяціў больш за 25 гадоў. Вынікам стала выданне шэрагу кніг шрыфтоў: "Шрыфты для мастацка-афармленчых работ", "Рэкламныя шрыфты", "Дэкаратыўныя шрыфты" і іншыя. У 1991 годзе ў Віцебску выдадзены самы поўны збор арыгінальных шрыфтоў, падрыхтаваных Клікушыным. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што і сёння Клікушын з'яўляецца адным з буйнейшых знаўцаў шрыфтавой графікі не толькі ў Беларусі, але і ў блізкім замежжы.

Дзве невялікія залы Віцебскага мастацкага музея, зразумела, не змаглі змясціць усе станковыя творы Рыгора Клікушына. Большасць кампазіцый прадстаўлена гледачу ўпершыню. Асабліва прыцягальны для Клікушына жанр пейзажа. Надзвычайная цікавасць і ўражлівасць да натуры не абмяжоўваюць мастака, не замінаюць кампазіцыйнай выразнасці і цэласнасці аркушаў. Нярэдка даволі сціплыя фрагменты натурнага пейзажа перакладаюцца на мову выяўленча-канкрэтных лінейна-тонавых рытмаў. Стылістыка лінарыта добра адпавядае некаторым творчым задачам мастака. Тут Клікушын то з асаблівай дакладнасцю, нават філігранным педантызмам распрацоўвае кожны фрагмент будынка ("Ветэрынарны інстытут", "Стары Віцебск"), то ўражвае экспрэсіяй і надзіва простай, але гарманічнай арганізацыяй плоскасці ("Куточак парку", "Пасля дажджу"). Натуральна і нязмушана тэхніка лінарыта гучыць у зімовых краявідах, дзе мастаку ўдаецца ў пераважна белай прасторы аркуша ўтварыць вытанчаную гульню рытмічна змяняючыхся ліній і плямаў ("Зіма", "Лучоса зімняя"). Сярод шматлікіх архітэктурных краявідаў Віцебска асаблівую цікавасць выклікаюць аркушы з фрагментамі сёння ўжо знішчанай жылой забудовы XVIII — XIX стагоддзяў ("Віцебскі пейзаж"). Своеасаблівы подых часу адчуваеш, углядаючыся ў архітэктурны твар горада 60-х гадоў.

Улюбёнай тэхнікай для Клікушына быў і малюнак тушшу рэйсфедэрам і пяром ("Дачны куток", "Старая школа"). Лінарыты і малюнкі мастака камерныя па сваіх памерах і вобразнаму ладу. Многія кампазіцыі па характары выяўленчых вобразаў асабліва блізкія да часопіснай графікі 60-х — пачатку 70-х гадоў, з яе ўзнёслай паэтыкай і рамантыкай. З шэрагу аформленых мастаком кніг асабліва хочацца адзначыць вокладкі да кніг Кузьмы Чорнага "Трэцяе пакаленне", Пятра Прыходзькі "Вішнёвы агонь", Шарлоты Брантэ "Джэн Эйр", паэм, апавяданняў, казак Якуба Коласа.

Але асноўная праца амаль двух з паловай дзесяцігоддзяў —шрыфты, прадстаўлена даволі сціпла. З 75 арыгінальных шрыфтоў, дарэчы, увайшоўшых у кнігу "Кніжныя, плакатныя, дэкаратыўныя шрыфты для мастацка-афармленчых работ" 31991) у экспазіцыі прадстаўлена толькі невялікая іх частка. У шэрагу асабліва дэкаратыўных і рэкламных шрыфтоў адзначаеш не толькі майстэрства каліграфа і афарміцеля, дакладны разлік і лёгкасць выканання, але і сапраўдны талент мастака з відавочна эмацыянальна-вобразным ладам мыслення. Акрамя таго, Клікушын шмат шрыфтоў пераклаў з лацінскага алфавіта, стварыў уласныя імправізацыі вядомых шрыфтавых малюнкаў.

Каштоўнасць той ці іншай мастацкай экспазіцыі не заўсёды вызначаецца славутасцю майстра ці велічынёй яго творчай спадчыны. Рыгор Клікушын і сёння не прэтэндуе нават на званне "мастака", крытычна ставячыся да зробленага. Адзінае, пра што са шкадаваннем гаворыць мастак, дык гэта аб спробах адлучыць яго напрыканцы і ад Віцебскай мастацкай школы. "На выставу, прысвечаную 75-годдзю Віцебскай мастацкай школы, неяк трапілі дзве мае работы, але ў ніводнай публікацыі аб гэтай падзеі маё імя нават не прыгадвалася. І гэта для мяне асабліва балюча", — заўважае мастак.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**

г. Віцебск

*На здымках:*
*Рыгор Клікушын.*
*На Дзвіне. Лінагравюра.*



КАМЕРТОН




## "ГОД СКЛАДАНЫ І СУПЯРЭЧЛІВЫ..."

***Невыпадкова перадпавагодняе інтэрв'ю калектыў нашай газеты аднагалосна вырашыў узяць у Ігара АЛОЎНІКАВА. Чалавек яркага, вытанчанага таленту, у годзе мінулым, 1996-м, быў сустаршынёй журы на міжнародным музычным фестывалі "Фартэпіяна. Мінск-96". Гэтая значная падзея пакінула шмат уражанняў, узбагаціла і разнастаіла музычнае жыццё нашай Беларусі. Якім жа бачыцца сёння Ігару Уладзіміравічу год мінулы, што чакае ён ад наступнага?***

— Мінулы год быў для мяне вельмі складаны і супярэчлівы, і вызначыць яго адназначна як год дрэнны альбо добры я не магу. Гэты год прынёс шэраг радасных падзей, якія надавалі аптымізму. Ажно шэсць маіх вучняў сталі лаўрэатамі і пераможцамі музычных конкурсаў. Міжнародны конкурс "Фартэпіяна. Мінск-96" — самая цікавая і значная падзея года. Радасць прынесла ўжо тое, што конкурс праходзіў у нас, а гэта значыць, ёсць перспектыва, што меркавіта тут, у Мінску, адбудуцца і наступныя міжнародныя. А калі да гэтага дадаць тое, што мой вучань Іосіф Сяргей заняў на гэтым конкурсе другое месца, то можаце ўявіць, якія пачуцці перапаўнялі мяне тады. Што казаць, для настаўніка заўсёды вялікая радасць, калі яго вучню надаюць годнасць лаўрэата — гэта самая высокая адзнака яго працы.

Ну, а яшчэ гэты год прынёс пачуццё жалобы і гора. Я згубіў роднага, блізкага чалавека — бацьку. У маіх знаёмых і сяброў таксама многа непрыемнасцей і гора. Адчуванне такое, быццам смерць у гэтым годзе забірала столькі людзей, як ніколі раней. І ад гэтага ўзнікае адно жаданне: каб ён, год 1996-ы, высакосны, хутчэй скончыўся і разам з ім згінула ўсё дрэннае — горыч і боль — з нашага жыцця і ніколі ўжо больш не паўтаралася.

Што я чакаю ад наступнага года? Цяжка сказаць... Нягледзячы на тое, што паводле свайго светаадчування я аптыміст, добрага ў сённяшніх варунках чакаць не даводзіцца. Вельмі б хацелася, каб палепшылася матэрыяльнае становішча нашых музыкантаў, якое — што казаць! — намнога горшае за нашых суседзяў. Гэта — навагодняе пажаданне і маім калегам, і сабе самому.

**Запісала Алена РЫГОРАВА**



# АДПАВЕДНАСЦЬ ВОБРАЗУ

***Знаны оперны спявак Віктар Скарабагатаў ужо колькі гадоў выступае для нас у новай якасці, у якасці арганізатара і духоўнага бацькі Беларускай капэлы. Сёлетні VI фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы", што праходзіў у лістападзе ў нашай сталіцы, вярнуў нас да музычнай культуры эпохі Рэнесансу і Барока. З гэтай нагоды наш карэспандэнт сустрэлася з Віктарам Скарабагатавым і занатавала яго ўражанні, меркаванні і спадзяванні.***

**— Спадар Віктар, не так даўно закончыўся VI фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы". Раскажыце аб праграме фестывалю, пра рэпертуар капэлы.**

— Вельмі цікавую праграму падрыхтавалі да фестывалю ансамбль "Класік-Авангард" на чале з Уладзімірам Байдавым і хор Магілёўскай абласной філармоніі "Унія" на чале з Кірылам Насаевым. На раннейшых фестывалях выконваліся музычныя творы, якім па 300, па 500 гадоў, а ў гэтым годзе мы засяродзілі ўвагу на творах часоў Рэнесансу і Барока — XVI—XVII стагоддзях. Мужчынскі камерны хор "Унія" выконваў урыўкі з Супрасльскага і Жыровіцкага ірмалагіёнаў, урыўкі з Брэсцкага і Нясвіжскага канцыяналаў, творы Андрэя Рагачэўскага, Вацлава з Шамотул, Цыпрыяна Базыліка і інш.

Гучалі творы з Віленскага і Полацкага сшыткаў. На мой погляд, была прадстаўлена цікавая і насычаная праграма.

**— Раскажыце падрабязней пра капэлу, яе склад.**

— Склад капэлы мяняецца ў залежнасці ад неабходнасці. Калі нам патрэбна большая колькасць спевакоў — мы можам запрасіць і капэлу Шырмы, і оперных спевакоў. Наогул, капэла — гэта арганізацыя, якая існуе ў выглядзе дырэкцыі фестывальных праграм.

Ужо двойчы на фестываль мы запрашалі навучэнцаў харэаграфічнага вучылішча. Першы раз паказалі балет на 2-м фестывалі ў 1993 годзе, нашай мэтай было — узнавіць не той балетнай традыцыі, якая існавала ў Нясвіжскім палацы Радзівілаў. Тады прагучала музыка і Мацея Радзівіла, і Іагана Давіда Воланда, які быў некалі прыдворным капельмайстрам. Сам балет, дзея адбывалася быццам бы ў тэатры Уршулі Радзівіл. І вось на манаграфічным фестывалі, прысвечаным Міхалу Клеафасу Агінскаму, быў паказаны балет — як бы менуэт. На сённяшні дзень ёсць такая думка: зрабіць балетную праграму, прысвечаную вальсу. Такім чынам, на фестывалі мы пройдзем цэлую эпоху культуры беларускіх балетных тэатраў — ад менуэта да вальса, а яны былі ў нас тут надзвычай цікавымі. Дарэчы, балетныя школы на той час існавалі на тэрыторыі толькі дзвюх дзяржаў Еўропы — Францыі і Вялікага княства Літоўскага. І рэфармаванне балета-дывертысмента ў балетдзеянне праводзілі адны і тыя ж балетмайстры і ў Францыі, і ў Вялікім княстве.

**— А ў нас, на жаль, уяўленне пра культуру тых часоў даволі прыблізнае, частка нашых грамадзян упэўнена, што і культуры на той час не было ніякай.**

— Нас прывучылі так думаць, і я раней так думаў. Але на самой справе гэта далёка не так. Магу прывесці такі цікавы гістарычны факт. Адна з прэм'ер араторыі Гайдна "Стварэнне свету" адбылася ў Слоніме. Вы спытаеце: чаму для прэм'еры Гайдн абраў менавіта Слонім? А таму што сябраваў з гаспадаром гэтых мясцінаў Міхалам Казімежам Агінскім — гетманам ВКЛ. Дарэчы, ён і падказаў Гайдну сюжэт гэтай араторыі. І заканамерна, што прэм'ера адбылася якраз тут, у Слоніме.

Пры сваім двары М.К.Агінскі стварыў вядомую на той час капэлу, там быў і вялікі тэатр на 2,5 тысячы месцаў, у аркестры было больш за сто музыкантаў. Калекцыя інструментаў аркестра — гэта сапраўдны цуд. Там не было хіба што Страдывары, астатнія ж італьянскія майстры ўсе былі прадстаўлены ў ёй.



**— Дзякую за такі цікавы гістарычны экскурс. Але ўсё ж давайце вернемся да беларускай капэлы, да Вашых праблем на сённяшні дзень. Калі ўзнікла гэтая думка — адрадзіць капэлу, вярнуць сучасніку сапраўдную музыку, старадаўнія спевы?**

— У 1990 годзе ў газеце "ЛіМ" быў надрукаваны мой артыкул "Без падмурка аднавіць немагчыма", і роўна праз год адбыўся першы фестываль Беларускай капэлы. Яшчэ праз год "Беларуская капэла" стала існаваць як дзяржаўная ўстанова. Дарэчы, такія музычныя таварыствы існуюць даўно ўжо ва ўсім свеце. Напрыклад,у Лейпцыгу — Бахаўскае таварыства, у Вене — таварыства Шуберта. Увогуле, у кожнай краіне свету ёсць музычныя таварыствы "пад значную музычную асобу". Пры гэтым існуюць яны, калі можна так сказаць, у дзвюх іпастасях: як навукова-даследчыя ўстановы, якія збіраюць архіў гэтай асобы, выдаюць поўны збор яе твораў, рэдагуюць літаратуру, прысвечаную гэтай асобе. А ўжо дзеля папулярызацыі гэтай музыкі, для выканання музычных твораў, як правіла, існуе капэла. А ў нас, на жаль, гэтага няма. Нават Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук, які ў першую чаргу павінен быў парупіцца пра выданне "Беларускага музычнага нотазбору", застаўся чамусьці вельмі далёка ад гэтай праблемы.

**— Ведаю, што Ваш асноўны клопат на сённяшні дзень: выданне "Беларускага музычнага нотазбору". Якраз і гаворка зайшла пра гэта. Раскажыце, якія захады ўжо зроблены, што яшчэ збіраецеся зрабіць у бліжэйшы час?**

— Не так даўно ўбачыла свет комплексная праграма "Спадчына", якая і абгрунтавала ідэю стварэння "Беларускай капэлы", яна прадугледжвае таксама выданне "Беларускага музычнага нотазбору". Добра вядома, як падышлі да сваёй музычнай класічнай спадчыны ў Расіі. У Маскве на гэты час ужо выдадзены поўны збор твораў Чайкоўскага, Рымскага-Корсакава, Шастаковіча, якому ў гэтым годзе спаўняецца 90 гадоў. На сённяшні дзень увесь Шастаковіч запісаны на кружэлкі. А ў нас няма нічога. Ёсць толькі пасобныя запісы на радыё. Вось чаму мы ставім сёння перад сабой такую задачу: усё, што датычыць гісторыі музычнай культуры Беларусі, трэба выдаць у выглядзе нотазбору, поўных збораў твораў і апрацовак, таксама ў аўдыёвыглядзе: кампактдыскаў, аўдыёкасет. Але зрабіць гэта сёння вельмі складана. Дзе знайсці матэрыяльную падтрымку? Спонсар у дадзеным выпадку можа быць толькі адзін — дзяржава, а калі дапамога дзяржава, то, магчыма, знойдуцца і спонсары-бізнесмены. Але пакуль што гэтыя спонсары чамусьці не стаяць у чарзе і не дыхаюць адзін аднаму ў патыліцу, калі гаворка ідзе пра класічную музычную спадчыну беларускага народа.

**— Што казаць, такіх мецэнатаў, якім быў некалі Сава Марозаў у адносінах да культуры Расіі, у нас цяпер знайсці цяжка, амаль немагчыма, і таму ёсць шэраг падстаў. Першая з іх — спосаб мыслення сучаснага бізнесмена.**

— Па асацыяцыі з гэтым прыватну адзін факт з музычнай гісторыі Еўропы. Нотавыдавец Брайткопф узяўся за выданне нотаў Баха ў 1849 годзе, калі Бах быў яшчэ малавядомы кампазітар. Але прайшло 50 гадоў і друкаваць ноты Баха стала гэтак жа прыбыткова, як друкаваць самі грошы. Як бачыце, немцы ўжо тады падумалі пра сваю культуру. У нас жа і на сённяшні дзень не хапае ў гэтым сэнсе дзяржаўнага мыслення, бо ў першую чаргу дзяржаву, народ пазнаюць па ўзроўні культуры. Дзяржава — гэта культура, а значыць, у першую чаргу — спадчына. Без культуры няма дзяржавы, няма народа, гэта — насельніцтва, гэта нейкі чалавечы натоўп, а не народ. Вось чаму так востра мы ставім гэтую праблему і спадзяемся на яе станоўчае вырашэнне.

**— У Вашых словах — сапраўдны боль за нашу культуру, за нашу музычную спадчыну. Давайце спадзявацца, што гэты боль і заклапочанасць пачуюць і зразумеюць людзі, ад якіх залежыць вырашэнне гэтай праблемы.**

— Вельмі хачу спадзявацца на гэта. А напрыканцы скажу толькі пра тое, што 500 гадоў таму, у Вялікім княстве Літоўскім, на беларускай зямлі функцыянавалі 36 оперных тэатраў. У нас жа дзейнічае зараз толькі адзін, як кажуць: каментар тут не патрабуецца...

***P.S.*** *Праз колькі дзён пасля гутаркі мне пашчасціла трапіць у оперны — на "Дзікае паляванне караля Стаха" І.Солтана. Слухаючы оперную інтэрпрэтацыю знакамітай аповесці Караткевіча, нельга было не захапіцца вобразам Беларэцкага, які стварыў на сцэне Скарабагатаў: узнёслым, інтэлігентным, высакародным. Майстэрскае выкананне дапаўняў вытанчаны артыстызм. Барытон спадара Віктара літаральна скарыў залу і прымушаў слухаць роднае, спеўнае беларускае слова. І раптам, як гэта бывае пры сустрэчы з сапраўдным мастацтвам, прыйшло адкрыццё-перакананне: Скарабагатаву не трэба "іграць" Беларэцкага, "заганяць" сябе ў рамкі вобраза. Скарабагатаў адпавядае гэтаму вобразу ў жыцці.*

**Алена РЫГОРАВА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# БЕЛАРУСЬ ВІТАЕ ДАНЧЫКА

*Хто мы такія?*
*Толькі падарожныя, —*
*Папутнікі сярод нябёс!*
*Нашто ж на зямлі*
*Сваркі і звадкі, боль і горыч,*
*Калі ўсе мы разам ляцім да зор...*

Мы забыліся пра ўсё нядобрае і злое, пра звадкі і непрыемнасці ў той вечар... Нас з'яднала песня, паэзія і каханне.

Хоць і было цеснавата тады ў Доме літаратара, не кожны ўмасціўся камфортна, але Данчык сваімі сардэчнымі і шчырымі песнямі прымусіў нас забыцца на ўсё, акрамя светлага і прыгожага, напярэдадні вялікага свята — Каляд.

Мне здаецца, што ў нашай краіне Багдан Андрусішын даволі вядомая постаць, нягледзячы на тое, што жыве ён у замежжы. Нарадзіўся ён у Нью-Ёрку 3 студзеня 1958 года, маці па нацыянальнасці беларуска, а бацька — украінец. Маці і бабулька, якую ён пяшчотна называе "бабця", з маленства вучылі Багдана любіць беларускую мову, якую ён, нягледзячы ні на што, лічыць сваёй роднай і на якой спявае свае мілагучныя песні. У 1980 годзе закончыў факультэт журналістыкі Нью-Ёркскага універсітэта, а зараз працуе прадзюсерам на радыё "Свабода" ў Празе.



Распачаў Данчык нашу сустрэчу славутай "Беларусачкай", за якую ён атрымаў І прэмію на фестывалі яшчэ ў 16 гадоў. Мы пачулі вялікую колькасць беларускіх песень: "Беларусь мая...", "Крывічаначка", "Зязюля", "О, Беларусь, мая шыпшына...", "Асеннее лісце", "Ты прыйшла назаўжды". Затым мы пачулі творы на шасці мовах свету: французскай, нямецкай, англійскай, іспанскай, украінскай і ўрыдзе. У рэпертуары Данчыка ёсць песня на французскай мове "Раскажы мне...", іспанская песенька "Дзякую жыццю..." ("Дзякую жыццю за ўсё, што яно мне дало!" —дадаў Данчык), хіт сусветнай класікі з рэпертуару "Бітлз" "Yesterday", песні настальгіі на англійскай мове (хіты 60-х —70-х гг.), дзве песні на другой роднай мове Данчыка — украінскія "Білий сніг" і "Києво мій"...

Лагодныя песні Данчыка западаюць у душу. Слухаючы яго, задумваешся над узнёслым і рамантычным — над чым няма калі паразважаць у жыццёвай мітусні. Так і хочацца прыпомніць трапныя словы Генадзя Бураўкіна "Праклясці б свой штодзённы марафон і паспрачацца..." Паспрачацца і падумаць пра наша жыццё, пра Радзіму і нацыю, якая мае такіх таленавітых людзей! Данчык неаднаразова паўтараў, што спявае непрафесійна, што музыка — яго хобі, захапленне. Але, як сказалі вядучыя канцэрта Зоя Белахвосцік і Алесь Падабед, дазвольце не пагадзіцца. Прафесіяналізм можна разглядаць па-рознаму. Для мяне — гэта спяваць з душой, самааддачай.

Данчык расказваў, як святкаваў каляды ў Амерыцы. Слухаючы, я ўяўляла ўсю прыгажосць свята ў далёкай краіне: добрае надвор'е, ма-

## ДЗІЦЯЧАЯ ПАЛЯЦОЎКА



# ФЕНОМЕН МАЛЕНЬКАЙ ПАЭТКІ

З ёю сустрэўся я на творчай вечарыне Сяргея Новіка-Пяюна, у Доме літаратара, калі ёй переваліла... за сем гадкоў! Была яна ў прыгожай зялёнай сукенцы і сядзела поруч з мамаю; даволі ўважліва слухала прамоўцаў, музыкантаў, спевакоў. Пазней прачытаў у "Бярозцы" яе адметныя вершы з уступам Алеся Разанава.

Валерыя Кустава... Хто яна? Дзяўчына, якая дзевятага чысла дзесятага месяца 1984 года з'явілася ў Мінску на белы свет. Натуральна, ёй даспадобы ласкальная форма свайго імя, але ж не Валерка, не Валерачка, а — Валерушка. Ёсць у гэтай форме імя нешта пышнае, кусцістае, як, дарэчы, і ў самім прозвішчы — К у с т а в а. Натуральна, чымсьці яна, цяперашняя школьніца, падобная да іншых дзяцей. Ды гэтая дзяўчынка незвычайная: яна — творца, да яе прыходзіць, не, хутчэй за ўсё, прылятае натхненне. А пачало яно хваляваць яе з самых ранніх гадоў маленства: дзіця, акрыялае пасля цяжкай хваробы, яшчэ не ведаючы нават азбукі, раптам стала дзіўныя сказы казаць. Дзякуй Богу, было гэта заўважана роднымі. Раз-пораз, калі Валерушка прамаўляла, мама ды бабуля занатоўвалі, пісьмова афармлялі в у с н ы я (вымаўленыя вуснамі) творы. Такая завядзёнка скончылася, калі дзяўчынка навучылася пісаць, пачала хадзіць у школу. Словам, ужо даўно занатоўвае сама.

Мяне дзівіла і дагэтуль дзівіць, як дзяўчынка-дзіця можа быць зусім дарослаю ў сваіх пачуццях і думках і як ёй удаецца часам так дасканала іх выказваць. Хто ці што — Зямля, Неба, Сусвет — дыктуе такія сур'ёзныя словы? І чаму такая духоўная ноша кладзецца на дзіцячую душу? Бо яна чыстая? Мо толькі абсалютна чыстай душы голас можа даходзіць да глыбіняў космасу чалавечай свядомасці? А можа і да ўсявышняе сілы такая энергія даходзіць хутчэй за іншыя?

Звяртаецца Валерыя Кустава да такіх субстанцый як Зямля ("Я люблю цябе, Зямля мая ад Бога, за тое, што тут нарадзілася і жыву..."), чалавек ("Ты — грэшны! Перад Небам і Зямлёй! Перад дрэвам і травой! Перад зверам і вадой! Ты — грэшны!"), Бог ("Божа! Зрабі нас вольнымі, як птушак..."). Творы яе часам нагадваюць малітвы, прыпавесці, іншы раз — патаемныя, як бы з іншага жыцця ці жыцця падсвядомага, згадкі, снабачанні.

Нам, рамантыкам і рэалістам, наватарам і нязменным прыхільнікам традыцыі, даверлівым і прагматычным, можна спрачацца, разважаць, прагназаваць. Але зусім відавочна: адбываецца феномен! З прыемнасцю дадам: развіваецца гарманічная асоба. Валерыя Кустава ў сваёй творчасці выступае супраць чорных сілаў, асуджае зло ва ўсіх яго праявах. І ў жыцці яна добрая, чулая. Неяк пасля дажджу ёй карцела, калі ўбачыла мокрую пчолку, абсушыць насякомаму крылцы. Аднаго разу яна сказала: "Калі кінуць у рэчку камень, ёй балюча". Уражлівая, любіць глядзець на неба, назіраць за воблакамі, хмарамі, вясёлкаю ці проста ўглядацца ў бяскрайнюю сінюю глыбіню. Вучыцца Валерушка іграць на скрыпцы, адначасна пачынае ствараць і сваю музыку: вядомая царыца ёй спрыяе. Спявае дзяўчынка з бабуляй народныя песні. А яшчэ любіць яна маляваць. Часта малюе добрых і злых духаў, белага і чорнага галубоў. Дамінуюць у малюнках колеры: белы, чырвоны, чорны, якія сімвалізуюць чысціню, любоў, журбу. А ці не гэта мы знаходзім і ў яе белых паэтычных творах?

Валерыя Кустава — феномен, які трэба ахоўваць і акрыляць. Дзеля бацькаўшчыны, яе духоўнасці, чысціні.

Склалася невялічкая кніжка твораў. Раз яе аўтарка — дзіця, то і выдаць яе трэба, пакуль яна яшчэ дзіця, а не тады, як пасталее ці нават пастарэе. Тут можна разлічваць толькі на чалавечнасць выдаўцоў "Мастацкай літаратуры", на іх бацькоўскі клопат. Іншыя адносіны да такога таленту затармозяць не толькі высакародную справу, але і развіццё самога таленту.

**Васіль ЖУКОВІЧ**

***Валерыя КУСТАВА***

### *КРОЎ СУСВЕТУ*

*Бачу белае поле —*
*усё ў чорнай крыві.*
*Бачу белае поле —*
*у чырвонай крыві.*
*Бачу белае поле —*
*і няма там крыві.*
*На першым полі*
*памёр сатана —*
*Хай не ўстане ніколі,*
*Каменем у сэрца сваё*
*забярэ ўсе грахі.*
*На другім полі*
*памёр Беларус —*
*Можа ўстане калісьці,*
*Бо мова адна, без Яго,*
*жыць не зможа.*
*На трэцім полі*
*памёр Гасподзь.*
*І ўваскрос ён.*
*І прыйдзе да нас.*

*13.02.95 г.*

# ДЗЕЦІ БАЧАЦЬ ФАЛЬШ ТАМ, ДЗЕ ДАРОСЛЫЯ НЕ ЗАЎВАЖАЮЦЬ

***Да сваіх субяседнікаў — стваральнікаў розных дзіцячых праграм Юлія Ваніна звярнулася невыпадкова. Трапіўшы ўпершыню на БТ у трохгадовым узросце, яна засталася тут назаўсёды. Спачатку ў перадачы "Сто тысяч чаму?". Потым — вядучая і сцэнарыстка некалькіх "Лiтарынак" і "Калыханак". Працяг супрацоўніцтва з дзіцячай рэдакцыяй не прыпыніўся нават пасля паступлення ў Беларускі лінгвістычны універсітэт. Але ж, у выніку — першае захапленне пераважыла, і Юлія перайшла на журфак БДУ.***

### ПРА ПАЦУ-ВАЦУ І ІНШЫЯ ІСТОТЫ

***Аляксандр Купрыянаў. Скончыў журфак БДУ, працуе на студыі "Калыханка" ўжо сем гадоў, аўтар перадачы "Мульціклуб", шматлікіх "калыханак", агучвае воўка Вову, Пацу-Вацу, Пузю-Карапузю і іншых. Вельмі любіць дзяцей.***

**Ю.В.:** Аляксандр, як атрымалася, што праграма "Калыханка" ператварылася ў студыю?

**А.К.:** Гэта студыя ўтварылася на базе перадачы "Калыханка" 2,5 — 3 гады таму. З'явіліся яшчэ дзве праграмы. Калектыў рэдакцыі здымае іх у свой непрацоўны час: гульню-віктарыну для самых маленькіх "Уся справа ў капелюшы" і праграма аб анімацыі "Мульціклуб". Аўтар першай з іх — Алена Фурсава, адна з самых апантаных і таленавітых людзей на студыі. Яна працуе ў "Калыханцы" 10 гадоў. Аўтары другой — я і Мікола Тумеля, які яшчэ займаецца рэжысёрскай справай.

**Ю.В.:** Адкуль у "Мульціклуба" такі незвычайны вядучы Паца-Ваца?

**А.К.:** У свой час на МКТ была перадача, назва ёй была дадзена па назве планеты "Чава-Какава"... Мы вырашылі па аналогіі назваць нашу зялёную істоту Паца-Ваца.

**Ю.В.:** І якая будучыня ў Пацы-Вацы і К°?

**А.К.:** Плануем працягваць выпускі "Калыханак", і кожную нядзелю ў эфіры — "Мульціклуб" ці "Уся справа ў капелюшы". Пасля новага года разам з галоўным рэдактарам студыі Аленай Фурсавай плануем выпуск інфармацыйна-пазнавальнай праграмы для маленькіх. Там будзе інфармацыя пра прэм'еры новых спектакляў, кінастужак, адпачынак у суботу і нядзелю для дзяцей... Такі "Абібок" для малых і іх бацькоў.

**Ю.В.:** І напрыканцы крышачку нетактоўнае пытанне. Вам не падаецца, што некаторыя праграмы студыі нагадваюць перадачы на каналах Расійскага і іншых замежных студый тэлебачання?

**А.К.:** Любому дзіцяці трэба дзесьці вучыцца, маленькаму — праз гульню. Гульня — аснова, а якая гульня — гэта ўжо іншая справа. Вось так і атрымліваецца, што "гуляюць" усе студыі СНД аднолькава, толькі афарбоўка ў кожнай гульні свая, мясцовая.

### "ЦЕЛЕК-ШОУ", ЦІ "Я ПІШУ СУР'ЁЗНЫЯ РЭЧЫ, НАД ЯКІМІ ЛЮДЗІ СМЯЮЦЦА"

***Кірыл Слука. Доўгі час працаваў у праграме "Усё нармальна, мама". Але не можа працаваць не ў сваім, дзіцячым калектыве. Лічыць, што ўсе, хто працуе ў дзіцячай рэдакцыі, — псіхолагі вышэйшай ступені. Гэты псіхалагічны трэнінг дапамагае яму і ў стасунках з дарослымі.***

**Ю.В.:** Кірыл, ты быў аўтарам праграмы "Класіка двароў", якую прадстаўляла студыя "Акно"; што з ёй здарылася?

**К.С.:** Пасля поспеху "Усё нармальна, мама" мне захацелася адысці ад бесшабашнай весялосці да філасофіі, нейкай цішыні, роздуму. Сам цыкл не быў разлічаны надоўга, мы разумелі, што кола гледачоў у нашай праграмы будзе абмежаваным. Але пасля выхаду першых праграм мы чакалі, што зараз да нас паваляць розныя дваровыя "барды" са сваімі вершамі і песнямі. На жаль, так не атрымалася. Увогуле, я лічу, што існуюць праграмы для дзяцей і пра дзяцей. "Класіка двароў" — на жаль, ператварылася ў праграму пра падлеткаў для дарослых. Самі падлеткі ўжо прызвычаіліся, што тэлебачанне сёння, у асноўным, гэта забаўляльна-пазнавальныя праграмы і інфармацыйныя выпускі. Але мне падаецца, што мы файна скончылі нашу праграму. Выйшла 13 перадач і атрымалася, што яна ператварылася ў цэласны твор, у такі невялікі мастацкі дваровы серыял.

**Ю.В.:** А як нарадзілася праграма "Целек-шоу"?

**К.С.:** Наш рэжысёр даўно ўжо марыў зняць перадачу, дзе ролі выконвалі б цацкі. Выраб цацак, на жаль, зараз зашмат каштуе, вось мы і прыдумалі руку ў пальчатцы, якая размаўляе, грымасніча і г.д. Кажуць, што "Целек-шоу" — падручнік жартаў. Мабыць, і ёсць падстава для гэтага. Калі чалавек, асабліва знакаміты, адказвае ў студыі на розныя пытанні, ён нават уявіць сабе не можа, што ў выніку атрымаецца ў эфіры.

**Ю.В.:** Што вы плануеце на будучыню?

**К.С.:** Мяркуем, праграма будзе ісці не толькі па БТ, але і транслявацца па радыё. Гэта было б цудоўна, бо ў ёй пераважвае не выява, а слова.

**Ю.В.:** Якія яшчэ праграмы выпускае студыя "Акно"?

**К.С.:** Мы сёння знаходзімся пад крылом "Акна". Яе мастацкія кіраўнікі Таццяна Сяменчанка і Таццяна Кіракозава выпускаюць таксама праграмы: "Напярэдадні будучыні", "Белая каралева" і іншыя.

**Ю.В.:** Ці карыстаецеся вы парадамі прафесійных псіхолагаў?

**К.С.:** Прафесійнага псіхолага на студыі няма. Але ёсць людзі, якія ўжо 20 гадоў ствараюць праграмы для дзяцей. Лічу, што яны дасведчаныя ў дзіцячай псіхалогіі.

**Ю.В.:** Каб пісаць дзіцячыя жартоўныя праграмы, цяжка самому ўвесь час заставацца вясёлым чалавекам?

**К.С.:** Увогуле, над кожным маім сцэнарыем смяюцца тры разы. Першы раз смяюся я сам, калі пішу, другі — зноў я, калі гляджу як здымаюць, а трэці, спадзяюся, — гледачы. "Бог троіцу любіць", і пакуль над кожнай праграмай будуць смяяцца тры разы — праграма будзе жыць. А наконт вясёлага сцэнарыста, усё наадварот. Я сур'ёзны чалавек і пішу вельмі сур'ёзныя творы, над якімі людзі смяюцца.





### "КАЛІ Ж ПОЙДЗЕ СНЕГ?", АБО КРЫШАЧКУ ПРА НЕВЫМОЎНАЕ

***Ларыса Есарцыя. Рэдактар рэдакцыі дзіцячых і юнацкіх праграм. Скончыла журфак БДУ. У вольны час, пад непасрэдным кіраўніцтвам рэжысёра Людмілы Тарасавай працуе над фільмамі-спектаклямі для дзяцей старэйшага ўзросту. Лічыць, што менавіта гэты напрамак сёння ў заняпадзе на БТ.***

**Ю.В.:** Ларыса, праца ў дзіцячай рэдакцыі гэта для вас што?

**Л.Е.:** "Калыханка" — асаблівая справа, добрая, чыстая і вельмі шчырая. Гэта мая асноўная праца, якую я вельмі люблю. Я пішу для дзяцей казкі. Але хочацца паспрабаваць сябе і ў іншым жанры. Зараз ажыццяўляецца ідэя стварэння тэлевізійнага фільма-спектакля, які мы здымаем пад кіраўніцтвам выдатнага рэжысёра Л.Тарасавай. Менавіта яна і з'явілася "рухавіком" усіх ідэй. Да нашага сумеснага фільма яна шмат плённа працавала на БТ. "Калыска чатырох чараўніц", "Не толькі пра каханне", "Радзіма" — гэта яе аўтарскія работы. Апошняя вялікая праца Людмілы Львоўны — "Палёт" па п'есе В.Лехава. Адразу пасля выхаду ў эфір фільма мы вырашылі, як кажуць, на той жа энергіі, што засталася ў здымачнай групе, дзейнічаць далей. І зараз мы працуем над фільмам-спектаклем "Калі ж пойдзе снег?" па аднайменнай аповесці Дзіны Рубінай. Праца даволі складаная як псіхалагічна, так і духоўна. Галоўны герой — маленькі, смяротна хворы чалавечак супрацьстаіць жорсткаму свету "здаровых".

**Ю.В.:** А як працавалі акцёры? Што думае на гэты конт выканаўца адной з галоўных роляў — Юрый?

**Юрый:** Я іграю ролю Барыса. Менавіта дзякуючы яму, дзяўчынка застанецца жыць. Цяжка, калі глядзіш, як памірае маленькі, разумны чалавечак, і не ведаеш, як яму дапамагчы. Нават калі гэта адбываецца не ў сапраўдным жыцці. Мне даспадобы мая роля таму, што я мог яе трактаваць самастойна. Працаваць для дзяцей — цікавая, але і адказная праца. Дзеці адразу бачаць фальш там, дзе дарослы яе нават і не заўважыць.

І гэты выраз і ёсць апошняя галоўная кропка ў нашых размовах.

**Юлія ВАНІНА**

*На здымках: урыўкі са спектакля "Палёт".*

**Фота Анатоля КАЛЯДЫ**

## ДЗІЦЯЧАЯ ПЛЯЦОЎКА

# І СТАЦЬ РЫЦАРАМ... НЕ МАЮЧЫ ЗАМКА

*З XII стагоддзя, а паводле некаторых даследаванняў, з IX —X, пачалася традыцыя беларускага рыцарства. Галоўным прызначэннем рыцара было абараняць. Абараняць свае гарады, воласці, маёнткі, мястэчкі — Радзіму. Рыцарства нарадзіла адмысловую культуру, са сваімі законамі і рытуаламі, стаўленнем да жыцця. І сёння суполка дзяцей і моладзі "Беларускі рыцарскі клуб" бярэ на сябе адказнасць за выхаванне годных грамадзянаў Беларусі. Праз вывучэнне рыцарскіх традыцыяў, куртуазнае стаўленне да жанчыны тут выхоўваецца павага да вечных каштоўнасцяў —сям'і, уласнасці, дзяржавы. У мэтах клуба — на аснове агульных памкненняў, гульні, цікавай працы, навізны даць магчымасць дзецям пафантазіраваць, праявіць сябе, набыць умельствы і навыкі, паглыбіцца ў свет даўніны, каб зразумець гісторыю і сябе. Стварыць умовы для рэалізацыі імкненняў да самасцвярджэння, самаўдасканалення, "сяброўства, а не хаўрусніцтва, любві і абароны, а не злобы і нападу". У задачы клуба ўваходзіць і фізічнае развіццё (рухавыя гульні, спаборніцтва, конніцтва, сцэнічнае фехтаванне), маральнае выхаванне — гэта і рыцарскі кодэкс, і ўмельства кіравання і падпарадкавання, тут вучацца рабіць сваімі рукамі рыцарскі рыштунак і мастацкае аздабленне гістарычных строяў, праводзіць тэатралізаваныя відовішчы. Фактычна, Беларускі рыцарскі клуб прапануе зусім новыя метады выхавання праз гульню і відовішчы, што дае магчымасць набыць навыкі, неабходныя для жыцця, і гістарычныя веды, неабходныя для сябе.*

*Цэнтральнае месца ў дзейнасці клуба займае гістарычная гульня, якая дазваляе, спалучыўшы карыснае і займальнае, раскрыць патэнцыял асобы, аднавіць генетычны шляхецкі рытуал, супрацьстаяць разбуральным тэхнічным і сацыяльным павевам часу. Сваімі думкамі дзеліцца каардынатар праектаў клуба Арына ВЕЛЕЖ.*

**Дык што ж такое гістарычная гульня? Якое значэнне яна можа мець для будучыні грамадзяніна?**

— Перша за ўсё, цікавая гульня — тая, у якой ты можаш гуляючы нечаму навучыцца. Дарэчы, гэта тычыцца і дарослых, і дзяцей. Гуляючы з дзецьмі ў гістарычныя гульні, мы спрабуем пазнаць нашу гісторыю і нават саміх сябе. І галоўнае тут, мусіць, самарэалізацыя, а не функцыя, роля, якія адведзены правіламі. Ты можаш у сабе спазнаць тое, пра што раней нават і не ўяўляў, канешне ж, знайсці тут новых сяброў, паплечнікаў у рэальным жыцці.

**— Ну, а што Вы лічыце галоўным у мастацтве гульні?..**

— Каб дзеці самі выдумлялі сабе гульні, а педагог, дарослы чалавек, адчуваў сябе назіральнікам, сачыў, каб гульня развівалася па правілах і каб гэта было прыгожа, бо прыгажосць убірае ў сябе і згарманізаванасць, і лаканічнасць, і самадастатковасць.

**— Скажыце, як Вам удаецца тэарэтычную мадэль рэалізаваць у жыцці?**

— Я адна з заснавальнікаў Беларускага рыцарскага клуба. Клуб аб'ядноўвае падлеткаў да семнаццаці гадоў, але мы запрашаем да нас і дзяцей меншага ўзросту. Мы знаёмім іх з гісторыяй, у прыватнасці, з гісторыяй рыцарства, уводзім у шырокі свет даўніх часоў Вялікага княства Літоўскага. Для гэтага наладжваюцца сустрэчы з вядомымі гісторыкамі. Тут няма школьнага ціску і прымусу. Кожны з удзельнікаў клуба — асоба, якая выбірае сабе занятак. Так што само сабой атрымліваецца: у рыцарскіх клубах выпадковых людзей няма...

**— Фактычна клубы такога кшталту запаўняюць нішу былых камсамольскіх, піянерскіх арганізацый...**

— Гэта прынцыпова іншыя аб'яднанні — гэта аб'яднанні па зацікаўленні, а не па прынцыпах арганізацыі, яны нават не падобныя на скаўцкія. Я заўсёды падкрэсліваю, што мы не з'яўляемся арганізацыяй, якая навязвае чалавеку сваю праграму, а проста збіраем аднадумцаў, людзей па інтарэсах, і імкнемся раскрыць здольнасці, інтарэсы, якія закладзены ў кожным з нас.



**— Вы не баіцеся, што Вашыя гульні заводзяць чалавека ў ізаляваныя спецыфічнай атрыбутыкай умовы? Правілы "гульні" ў сярэднявеччы — адныя, у сённяшняй рэчаіснасці — зусім іншыя.**



— Я гэтага не баюся. Бо ў свядомасці кожнага чалавека ёсць дзве часткі — адна жорстка абмежавана ўмовамі, рамкамі рэальнага жыцця, другая — мара, фантазія. Нашыя ўдзельнікі дакладна адчуваюць гэтую мяжу. Галоўнае, чаму вучаць гульні, — дабру і справядлівасці, перамагаць зло, дапамагаць адзін адному, — а гэта менавіта тое, што неабходна заўсёды, незалежна ад гістарычнага перыяду, у якім жывем.



**— Якія галоўныя прынцыпы падбору і стварэння гістарычнай гульні?**

— Чалавеку цікава, калі яна раскрывае свет і рыхтуе да жыцця. Умоўна гэтыя прынцыпы можна абазначыць так: гульня і прыгажосць, гульня і мудрасць, гульня і права. Калі браць права, то, скажам, тое асяроддзе, якое можна ўмоўна стварыць і раскрыць на гістарычным прыкладзе, дасць больш, чым сухія школьныя ўрокі. У школьнікаў усё ідзе цераз асабістае ўспрыняцце. І каб закрануць адпаведныя стрункі душы, трэба ствараць сітуацыі, у якіх падлеткі могуць сябе праявіць.

**— Якімі Вы бачыце перспектывы сваёй дзейнасці? Ці ёсць у Мінску, наогул у свеце, аналагічныя праекты?**

— Я аптымістычна гляджу ў будучыню. Лічу, што ў кожным мястэчку, дзе ёсць замак, ёсць свая цікавая гісторыя, і тут можа ўзнікнуць свой гістарычны клуб. Дзіцячы, юнацкі, студэнцкі. У еўрапейскіх краінах такія клубы існуюць пры многіх замках, палацах. Гэты рух называецца рухам за рэканструкцыю мінуўшчыны, а Беларусь — краіна замкаў, таму ў нас — вялізная перспектыва. Трэба проста, каб распрацоўваліся адпаведныя методыкі, рыхтаваліся педагогі. Вядома ж, неабходна мець адпаведнае гістарычнае асяроддзе, і найпершая праблема — рэканструкцыя нашых замкаў, пры якіх мы маглі б замацоўвацца. Сёння мы ўваходзім у клуб грамадзянаў Вялікага княства Літоўскага, але, з другога боку, ствараецца і рыцарская асацыяцыя, якая збіраецца аб'яднаць чатыры клубы — конны клуб "Продыюс", вайскова-гістарычны клуб "Калюмны", наш Беларускі рыцарскі клуб і гісторыка-фантазійны клуб "Адзінарогі". Мы выступілі ініцыятарамі стварэння спецыяльнай структуры правядзення сумесных праграм, гэта тычыцца і фінансавання, і арганізацыі мерапрыемстваў. Бо ні адзін клуб самастойна не можа правесці свята, якое было б дастаткова прыгожым і відовішчным, гэта пад сілу некальным клубам.

**— Ці не маглі б Вы ўдакладніць, якія святы маюцца на ўвазе канкрэтна?**

— Мы маем свае традыцыі. Прынамсі, восеньская гульня "Лошыцкая харугва" — выпрабаванне для новых сяброў нашага клуба, якія мараць стаць рыцарамі. Дзеля гэтага трэба прайсці некалькі выпрабаванняў. Другая традыцыя — цудоўныя турніры, рыцарскія балі. Адзін баль праходзіць, як правіла, на пачатку снежня, другі — у сакавіку. Нашы традыцыйныя вясновыя турніры пачынаюцца 6 траўня, ў дзень святога Юр'я. У кожнага народа святы Юрый асацыіруецца з мужным рыцарам, які забівае цмока, яму прысвечана многа песень, легендаў, гэта дзень нашага беларускага рыцарства. Вясна — адкрыццё сезона гістарычных гульняў, калі сыходзяцца некалькі клубаў на спаборніцтвы. У нас ёсць добрыя кантакты з клубамі Польшчы, Чэхіі, Літвы. Так, на пачатку чэрвеня мы мяркуем правесці міжнародную сустрэчу клубаў. Гэта адбудзецца ў Мінску на базе Лошыцкага парку. Канешне, было б добра правесці яе ў гістарычным асяродку каля замка. Мы любім падарожнічаць. Безумоўна, марым пра свой летнік. Шукаем зараз людзей, якія б маглі нам прапанаваць зямлю, дзе можна пабудаваць свой замак. Марым пра ўласнае пастаяннае памяшканне. Пакуль жа нам добра дапамог Цэнтр пазашкольнай працы дзяцей і моладзі Ленінскага раёна сталіцы. Пачуўшы пра нашу працу, паставіўшыся сур'ёзна да "гульні", яны пайшлі нам насустрач, і ў гэтым годзе мы атрымалі памяшканне.

**— Гістарычнае выхаванне, пэўна, спрыяе фармаванню светапогляду, грамадскай пазіцыі?**

— Што тычыцца філасофіі — тут трэба пісаць асобны артыкул. Аднак варта звярнуць увагу на тое, што Рух стварэння гістарычных клубаў, напрыклад, у той жа Чэхіі, пачаўся ў 1968 годзе. Гэта быў пратэст супраць таго, што не маглі развівацца такія асновы чалавечай супольнасці, як традыцыя, свабода, і тая праграма, фактычна, заклікала да агульнай еднасці ўсіх людзей, у каго ёсць гістарычнае мысленне. А чалавек, які дбае пра сваю гісторыю, гісторыю сваёй сям'і, адпаведна павінен ведаць і гісторыю краіны, дзе ён жыве. Такім людзям трэба аб'ядноўвацца, каб захаваць свой светапогляд. Задача клуба ў межах Еўрапейскага руху за рэканструкцыю мінуўшчыны — дзейнічаць не па сухіх падручніках, працаваць незалежна ад настаўнікаў, якія могуць навязваць свой погляд. Словам, дазволіць чалавеку адчуць асяроддзе мінулага, сваімі рукамі памацаць, перажыць, упэўніцца, што яго карані — не ў пушчы, не ў полі, а што ён ёсць часткай гістарычнай супольнасці сваёй старадаўняй зямлі.

**Лесь ТУР**



***Зміцер КІРЫЛАЎ***

### ПРЫПАВЕСЦЬ ПРА ТРАНСФОРМЕРА ДЫ ЗЛАДЗЮГУ

*Ішоў з горада ды з вялікага,*
*Ішоў з горада ды з Дэтройта*
*Трансформер вялікі,*
*Зваўся той трансформер магутны*
*Оптымус Прайн.*
*Ішоў трансформер вялікі*
*Ды ў горад сталічны,*
*Ішоў ён у Мінск.*
*Мінск сталіцай быў*
*Беларусі.*
*Ішоў да сябра свайго,*
*Да таварыша.*
*І прыйшоў ён у сталіцу,*
*І пайшоў да таварыша,*
*Падышоў да хаткі,*
*Да хаткі прыгожанькай,*
*Прыгожанькай ды драўлянай.*
*Падышоўшы, пастукаўся.*
*Ды ніхто не азваўся там*
*Ды дзвярэй не адчыніў.*
*Чуе ён: шум ды грукат,*
*І зламаў тады дзверы,*
*І ўвайшоў у хату,*
*Падышоў да лесвіцы*
*І падняўся па ёй.*
*А ўбачыў ён, што таварыш ляжыць*
*У непрытомнасці.*
*Побач — пакой адчынены,*
*Дзверы ўшчэнт разбітыя.*
*І ўвайшоў трансформер туды,*
*Бачыць — зладзюга стаіць,*
*І кладзе ён дабро*
*Ў валізку сваю.*
*І схапіў трансформер яго,*
*Прыгаворваючы: "Каб кінуў звычку*
*Кепскую маіх сяброў*
*Рабаваць".*
*І бразнуў яго аб сцяну.*
*Потым узяў сябрука свайго*
*І ў шпіталь адвёз*
*Да доктара.*
*А зладзюга той*
*Кінуў рабаваць,*
*І пайшоў зараз ён*
*Цукеркамі гандляваць.*

## АРХІЎ

***“Восенню 1924 года я пакінуў бацькоўскі дом і пераехаў з сям’ёй у суседнюю вёску Астравок, куды мяне прызначылі настаўнікам.***
***Тым часам успомнілі пра мяне ў Мінску, дзе ўжо існавала пісьменніцкая арганізацыя “Маладняк”. Не бачачы больш на старонках газеты маіх вершаў і баючыся, каб я зусім не заглух у вёсцы, сябры пачалі клікаць мяне ў Мінск, абяцаючы падшукаць прыдатную работу.***
***Пасля доўгага роздуму я ў маі 1925 года пераехаў у Мінск і стаў працаваць інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры. Працуючы на гэтай пасадзе, я часта выязджаў у мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі. Гэта спрыяла больш грунтоўнаму азнаямленню з прыродай розных куткоў Беларусі, бытам насельніцтва, выдатнымі асаблівасцямі беларускіх гарадоў”.***

# У ЛІТАРАТУРУ — ПРАЗ КРАЯЗНАЎСТВА

Гэта радкі з аўтабіяграфіі народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы, змешчанай у кнізе “Пяцьдзесят чатыры дарогі”. Так, больш як год Кандрат Крапіва працаваў раз'язным інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства, створанага ў студзені 1924 года пры Інстытуце беларускай культуры. За плячыма ўжо былі першая сусветная і грамадзянская войны, настаўнічанне, першыя спробы сатырычнага пяра.

У архіве Акадэміі навук Беларусі захаваліся дакументы, якія праліваюць дадатковае святло на “краязнаўчы” перыяд жыцця пісьменніка. Гэта хадайніцтва Усебеларускага літаратурнага аб'яднання “Маладняк”, якое на правах секцыі ўваходзіла ў Інстытут беларускай культуры, аб уладкаванні на працу ў інстытут Язэпа Пушчы, Нічыпара Чарнушэвіча, Андрэя Александровіча, Кузьмы Чорнага і Кандрата Крапівы, матэрыялы абмеркавання вылучаных кандыдатур на агульным сходзе Інбелкульта і пастанова аб залічэнні маладнякоўцаў на вакантныя пасады.

Знайшлася вакансія і для Кандрата Крапівы. 1 красавіка 1925 года ён быў прызначаны на пасаду раз'язнога інструктара Цэнтральнага бюро краязнаўства “з аплатаю 50 рублёў у месяц”. Захавалася заява Кандрата Крапівы ў Прэзідыум Інстытута беларускай культуры: “З прычыны таго, што я згодна вашай прапановы пакінуў пасаду настаўніка і перайшоў на пасаду інструктара Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце, прашу аб выдачы мне пад'ёмных і пасобія на перавозку сям'і, якая складаецца з дзвюх душ.

Падстава: Кодэкс законаў аб працы. Артыкул 82.

Інструктар ЦБ Краязнаўства К.Атраховіч. 30 красавіка 1925 г.”



У Цэнтральным бюро краязнаўства ў той час працавалі былы першы рэдактар газеты “Беларуская вёска” Радзівон Шукевіч-Трацякоў, аўтар першых беларускіх падручнікаў па геаграфіі Мікалай Азбукін, празаік пачатковец Андрэй Мрый, першыя апавяданні якога ўжо з'явіліся на старонках газеты “Савецкая Беларусь”. Рэдактарам друкаванага органа Цэнтральнага бюро краязнаўства часопіса “Наш край” быў пісьменнік Змітрок Бядуля. Дарэчы, у выданні часопіса і рэдагаванні яго першых нумароў актыўна ўдзельнічаў і Кандрат Крапіва.

Але асноўным у працы раз'язнога інструктара было наведванне краязнаўчых таварыстваў і гурткоў, аказанне ім метадычнай дапамогі. На працягу 1925 года Кандрат Крапіва выязджае ў Барысаў, Віцебск, Клімавічы, Крычаў, Магілёў, Мсціслаў, Слуцк, Старыя Дарогі, выступае на сходах краязнаўцаў, знаёміць са станам краязнаўчага руху на Беларусі. Аб гэтых паездках у Архіве Акадэміі навук Беларусі захаваліся яго справаздачы. Гэта аўтографы.

З ліпеня 1925 года Кандрат Крапіва выбіраецца ў склад Прэзідыума Цэнтральнага бюро краязнаўства, а неўзабаве яму павялічваюць заработную плату. Захавалася хадайніцтва Цэнтральнага бюро краязнаўства ў Прэзідыум Інстытута беларускай культуры: “Цэнтральнае бюро краязнаўства гэтым просіць аб павелічэнні пенсіі інструктару ЦБ краязнаўства члену-супрацоўніку Інстытута беларускай культуры Кандрату Кандратавічу Атраховічу (Крапіве). Таварыш Атраховіч працуе штодзень з 9 гадзін раніцы да 3 1/2 гадзін дня і атрымлівае 50 руб. у месяц. Як члену-супрацоўніку Інстытута беларускай культуры просім выдаць яму 75 руб. у месяц, бо ён у поўнай меры асвоіўся з працай і праводзіць яе з належным парадкам.

20 чэрвеня 1925 г. сакратар ЦБ краязнаўства М.Азбукін”.

Хутка з'явілася і пастанова Прэзідыума Інстытута беларускай куьтуры наступнага зместу: “Дзеля таго, што інструктар ЦБ краязнаўства Атраховіч з'яўляецца членам-супрацоўнікам Інстытута беларускай культуры, пенсію яму павялічыць да 75 руб. у месяц, якую і выплачваць пачынаючы з 1 ліпеня гэтага года”.

1926 год для Кандрата Крапівы, як і для іншых членаў ЦБ краязнаўства пачаўся з клопату пра падрыхтоўку I Усебеларускага краязнаўчага з'езду, які адбыўся ў лютым. На яго, Мікалая Азбукіна, Зміцера Даўгялу і яшчэ некалькіх супрацоўнікаў была ўскладзена тэхнічная арганізацыя мерапрыемства. Трэба падшукаць памяшканне, набыць паперу, алоўкі для дэлегатаў, наладзіць выставу краязнаўчай літаратуры. Кандрат Крапіва выбіраецца дэлегатам з'езда, уваходзіць у склад яго сакратарыята.

А затым — паездкі па Беларусі, аказанне арганізацыйнай і метадычнай дапамогі краязнаўчым таварыствам і гурткам, папулярызацыя краязнаўства сярод насельніцтва. Ён абследуе стан краязнаўчай работы на Аршаншчыне і Полаччыне, удзельнічае ў Мазырскай і Барысаўскай краязнаўчых канферэнцыях, выступае з дакладам аб становішчы краязнаўчага руху ў рэспубліцы і перспектывах яго далейшага развіцця, наведвае Крупскае і Смалявіцкае таварыствы. Разам з мастацтвазнаўцам Мікалаем Шчакаціхіным летам чытае лекцыі на настаўніцкіх курсах у Магілёве.

Да часу працы ў Цэнтральным бюро краязнаўства адносіцца і паступленне Кандрата Крапівы ў Беларускі дзяржаўны універсітэт. “У 1926 годзе, — згадвае ён у той жа аўтабіяграфіі, — калі мне было трыццаць гадоў, я паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Гэта дало магчымасць запоўніць вялікі прабел у маёй адукацыі”.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у матэрыялах Беларускага дзяржаўнага універсітэта захаваліся дакументы, якія дапаўняюць і ў нейкай ступені ўдакладняюць акалічнасці паступлення яго на вучобу ва універсітэт. Гэта заява ў Цэнтральную камісію па прыёме ў ВНУ:

“Прашу аб залічэнні мяне на першы курс педфака БДУ.

Асвету маю сярэднюю. Чатыры гады працаваў у пачатковай школе настаўнікам.

Дакументаў аб асвеце прадставіць не магу, бо яны згублены ў часы грамадзянскай вайны разам са справамі былай Мінскай павятовай земскай управы.

25 верасня 1925 г. К.Атраховіч (Крапіва)”.

На заяве рэзалюцыя: “Залічыць”.

І амаль праз год яго пісьмо на імя народнага камісара асветы Беларусі наступнага зместу:

“У мінулым годзе я быў залічаны на першы курс педфака БДУ. Правучыўшыся паўгода, я прымушан быў пакінуць універсітэт з прычыны таго, што не мог прадставіць дакументаў аб асвеце, якія згублены былай Мінскай павятовай земскай управай у час вайны. Апрача ўсяго гэтага адначасна служыць і вучыцца немагчыма з тае прычыны, што прыходзіцца занядбаць сваю літаратурную дзейнасць.

Дзеля гэтага прашу залічыць мяне студэнтам 1 курса педфака БДУ і даць стыпендыю да яго сканчэння.

Кандрат Атраховіч (Крапіва)”.

На пісьме рэзалюцыя намесніка асветы Беларусі Антона Баліцкага: “Восстановить студентом педфака БГУ. 26 июля 1926 г.”

Да гэтага часу Кандрат Крапіва быў ужо аўтарам двух вершаваных зборнікаў “Асцё” і “Крапіва”, зборніка апавяданняў. Усе яны былі выдадзены ў 1925 годзе.

Займаючыся ва універсітэце, Кандрат Крапіва не парывае сувязей з Цэнтральным бюро краязнаўства, удзельнічае ў рабоце фальклорна-дыялекталагічнай камісіі Інстытута беларускай культуры, піша і праз нейкі час друкуе ў часопісе “Узвышша” артыкул “Беларускія прыказкі”. У лістападзе 1926 года ён уваходзіць у склад створанай у Цэнтральным бюро краязнаўства студэнцкай камісіі, удзельнічае ў рабоце універсітэцкага краязнаўчага таварыства, выбіраецца дэлегатам II Усебеларускага краязнаўчага з'езда, які адбыўся ў лютым 1927 года.

Вось усяго некалькі штрыхоў да партрэта народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы, Крапівы-краязнаўцы. Спадзяемся, што ўсё згаданае вышэй зацікавіць чытача.

**Уладзімір ГРАМОВІЧ**

*На здымку: (злева направа) члены Цэнтральнага бюро краязнаўства К.Крапіва, А.Казак, М.Каспяровіч, М.Бялуга, З.Бядуля, М.Азбукін, Г.Аляксандраў.*

# СУНІЦЫ ДЛЯ БАЙКАПІСЦА

У той чэрвеньскій дзень 1981 года я вырашыў наведаць у лечкамісіі Мітрафана Тарасавіча Панасевіча, які быў адказным ад Саўміна ў свой час за будаўніцтва школы на радзіме Якуба Коласа. Ён падзяліўся ўспамінамі пра дзядзьку Якуба. Я іх выслухаў, запісаў. Нашы адносіны сталі прыязнымі, трывалымі. У лечкамісіі, нечакана для сябе, убачыў славутага Кандрата Крапіву. Выгляд той меў змучаны, хадзіў неяк прамымі вугламі, трымаючыся пэўнага накірунку. Палата агульная, здаецца, аж на шэсць чалавек. Мне падумалася тады, чаму прызнаны ўсім народам творца пазбаўлены ўвагі і пашаны з боку адпаведных уладных медыцынскіх структур, у пэўнай ступені прыніжаны?.. Няўжо зверху націснулі, маўляў: “Няхай аўтар “Брамы неўміручасці” адчуе, хто ёсць хто”... Як казаў калісьці школьны конюх: “Не той правы, хто мае многа праў, а той, хто правіць імі”... Так або інакш, шаноўны Кандрат Кандратавіч быў адрэзанай лустай ад высокага дзяржаўнага караваю. На тумбачках хворых чырванелі апетытна трускалкі, на яго — кнігі і допіс ад рукі.

На купалаўскіх мясцінах, што пад Радашковічамі, каля вёскі Повязынь, на бярозавых пагорках я набраў суніц. Самыя спелыя і буйныя жонка паклала ў двухлітровы слоік. Сабрала крыху агародніны. У той жа дзень я наведаў Крапіву...

Будучы студэнтам, я разы два сустракаўся з драматургам, дзякуючы Якубу Коласу. Нават паціснуў яму руку ў тэатры Янкі Купалы ў час яго юбілею. На свяце прысутнічаў Сяргей Міхалкоў. Тады я лавіў кожнае слова тых высокіх асобаў, што віншавалі Крапіву. Пісьменнікі ў маіх вачах былі недасягальнымі, не такімі зямнымі. Людзі і ўрад высока цанілі духоўнасць, культуру, хоць, праўда, трымаліся тых нотаў, што пісаліся ў Маскве... Тым не менш таленавітыя творцы былі абласканы ўвагай самай высокай эліты ЦК КПБ. Я зараз дакладна памятаю трапныя словы, выказаныя Міхалковым юбіляру:

*...Крапива ты, Крапива,*
*Очень жгучая трава.*
*Чтобы эта крапива*
*Выжигала всё дотла...*

Адбылася сустрэча і ў маладым садзе Якуба Коласа каля соснаў. З таго часу шмат вады выцекла з Нёмана...

Будучы у лечкамісіі, я паціху кашлянуў у кулак і прагаварыў сіплаватым ад хвалявання голасам:"Кандрат Кандратавіч, я, во, да вас прыйшоў, пакаштуйце суніц з роднага кута Купалы, ну і тое-сёе перадала мая жонка".

Суровы, засяроджаны твар хворага засвяціўся сонцам, маршчыністыя вусны кранула ўсмешка. Ён стаў пільна прыглядацца да мяне, бы нешта ўспамінаючы. І, раптам, стукнуўшы кулаком па ўласным калене, упэўнена прамовіў: “Сымонкаласок, Канстанціна Міхайлавіча сваячок... Не чакаў, не чакаў, нябож... Суніцы — гэта такая смакаторыя, свет не бачыў”. Ён прагна панюхаў жар-ягады. Колькі сунічак паклаў у рот, прыплюшчыў вочы. Крутнуў сівой лабастай галавой і працягваў: “Не чакаў, Сымоне, што зробіш мне такі прыемны падарунак... Я, брат, з тваім дзядзькам Юзікам збіраў суніцы не аднойчы каля Акінчыц. Мы ж з ім вучыліся ў адным класе ў Стоўбцах. Я ж і вызваляў гэты край ад панскай Польшчы. Бачыш, як у жыцці, часам, светлы прамень сагрэе душу... Дзякую, яшчэ раз дзякую. Купалавы суніцы... Гэта ж трэба такому надарыцца... Абавязкова перадай дзякуй сваёй жонцы... Як яе завуць?"

Я адказаў, што Вера.

“Дык перадай сваёй Веры паклон ад мяне і долі ёй шчаслівай, — сказаў Кандрат Кандратавіч. Малапамалу мы разгаварыліся, жартавалі, прыгадвалі нёманскія прасторы, грыбныя мясціны Лаўскага лесу. Прайшліся разам па агульна знаёмых земляках. Шмат цікавага я пачуў пра дзядзьку Юзіка, давялося адказаць і на пытанні Крапівы, які дэталёва распытваў пра свайго школьнага сябра... Крыху пажартавалі з хваробы “нягеглай”, як выказваўся драматург, пад назовам адэнома... Я пачытаў уласныя радкі верша, які склаўся ва уралагічным аддзяленні, дзе ляжаў не аднойчы.

*... Вот бяда, Антось, бяда:*
*Не пайшла ў мяне вада.*
*Ўчора дзюбнуў я “чарніла”*
*Зранку нешта заклініла.*
*І сягоння а ні-ні,*
*Хоць ты палкаю прапхні...*
*Адным словам, любата,*
*Праўда, часам, макрата*
*У пасцелі завядзецца,*
*Калі трубачка заб'ецца...*
*Дык дадуць табе падклад,*
*Як дзіцятка, будзеш рад...*

Крапіва слухаў, прыклаўшы абедзве рукі да вушэй і шчыра рагатаў:

“Я табе скажу: штосьці і табе ад Коласа перапала. Пра хваробу пішаш, як у ваду глядзіш... Але ж я і ў рот не браў гэтае “чарніла”, а, бачыш, заклініла... Даводзіцца гнаць гэтую самагонку. Паганы гэты занятак, мушу табе сказаць...

— Дык пройдзе час і ўсё загоіцца, і вы яшчэ з дзесятак гадоў пагукаеце на гэтым свеце...

— Я табе скажу, Сымоне, мала ты мне зычыш. Наш род моцны і даўгавечны. Дзед мой, напрыклад, усе 112 пражыў і пры сваім розуме быў. Дык і мне не грэх хоць сто адмераць, а там Бог бацька...

Я з болем у сэрцы глядзеў на высокага, хударлявага, з дрэнным слыхам і зрокам, жыццялюба, уладара народных дум, дзівіўся яго ўчэпістай памяці, яснаму розуму. Мне моцна карцела папытацца, чаму такога слыннага чалавека Бацькаўшчыны не паклалі ў тую люксавую палату, дзе звычайна лячыліся сакратары райкамаў, і больш буйная рыба плавала ў той утульнай раскошы. Я не вытрымаў:

— Кандрат Кандратавіч, чаму б вам не паляжаць у больш прыгоднай палаце...

— У тых ляжаць тыя, не такія, як я, худыя, — горкая ўсмешка прабегла па вуснах хворага, — там уладары народа, я тут з народам... Так што: хто з народам, яму не свеціць царская выгода... Ды не будзем аб гэтым мянціць языкамі... Ты ж усётакі не забудзь падзякаваць сваёй кабеце і табе дзякуй. Калі ёсць суніцы і так пахнуць прывабна, то і жыццё мае сэнс пражыць так хараша... Хто з Богам, у таго светлая дарога, — счакаўшы хвіліну, дадаў на філасофскі лад Крапіва.

Значна пазней я пачуў ад людзей, быццам байкапісец пакінуў у кніжцы скаргаў той лячэбнай установы вось такія словы:

“... Няма толку, няма смаку...”

**Сымон БЕЛЫ**

АМАЛЬ ДЭТЭКТЫЎНАЯ ГІСТОРЫЯ

# ЯК ПАХАВАЛІ "ЗАЛАТУЮ" СПРАВУ, АБО КЛАНДАЙК НА БЕЛАРУСІ

***У сярэдзіне 60-х, у перыяд, калі "ўсе шляхі вялі да камунізму", а партыя была не толькі нашым правадыром, але і "гонарам і сумленнем эпохі", у адным раённым гарадку Беларусі, дзе месцілася вельмі салідная "скрыня" (просьба не блытаць з тэлевізарам, на тагачасным дыялекце гэта азначала — засакрэчаны ваенны завод), у аддзел барацьбы з раскраданнем і спекуляцыяй (ОБХСС) паступіў сігнал: у "скрыні" ідзе гэтае самае раскраданне, але ў памерах, якія пераўзыходзяць нават такія звыклыя фармулёўкі, як "у асабліва буйных". І — не валёнкі, крадуць — зо-лата!.. Як! Што? Адкуль золата? Ды яшчэ ў такіх вагавых катэгорыях! І дзе? Не на Калыме, а тут у нас, пасярод бульбы, грыбоў і добрых людзей?!***

Уявіце сабе мясцовых эканомсышчыкаў з іх маладой прагай дзейнасці і некалькі правінцыйным жаданнем (дарэчы, цалкам зразумелым) "выцерці нос" сталіцы і паказаць вышэйшаму кіраўніцтву ўзровень працы, калі гэтыя самыя сышчыкі даведаліся пра маштабы крадзяжу і фантастычную тэхніку яго здзяйснення.

Чалавек, які распавёў мне гэтую гісторыю, салідны міліцэйскі чын, паставіў умову: ніякіх прозвішчаў, дакладнай геаграфіі і назваў. Гэта было яго права, тым больш, што мяне ў яго аповедзе цікавіла (мяркую, што і вас зацікавіць) зусім іншае: тэхналогія крадзяжу і тое, што найбуйнейшы на Беларусі крадзеж каштоўнага металу адбываўся пад "дахам" вайсковай, цалкам сакрэтнай вытворчасці, і таму яна, гэтая "залатая справа", так і не зрабілася набыткам грамадскасці, а буйныя рабаўнікі так і засталіся паважанымі грамадзянамі. Яны і па сёння жывыя, здаровыя і — паважаныя. Наўрад ці нават блізкія і сябры ведаюць пра вытокі таго "сервісу", у якім гэтыя людзі жылі і жывуць.

Такім чынам, у ОБХСС паступіў вельмі савецкі сігнал пра тое, што адна з супрацоўніц "скрыні", самотная, інжынер, жыве не па сродках. У грамадстве, дзе пра дэкларацыю прыбыткаў ведалі толькі з "замежных" раманаў, у грамадстве, дзе данасіць стала ладам жыцця, а большасць насельніцтва было дзецьмі і ўнукамі Паўлюка Марозава, такі "сігнал" быў справай звычайнай, пабытавай.

Сышчыкаў зацікавіла не тое, што "не па сродках" — іх гэтым (тым больш, іх!) здзівіць было немагчыма: па сродках нават выжыць і тое было справай нерэальнай, бо крала ўся краіна, — а тут ім стала цікава, дзе крала гэтая жанчына і, безумоўна, маштабы: нешта яна вельмі... наогул... Машына, летнік, рэчы на ўзроўні абкамаўскага размеркавальніка, адпачынкі на поўдні...

Інжынер? "А кім яна была да семнаццатага года?" Пачалі збіраць дасье. Метады ёсць розныя: адкрытыя — закрытыя, легальныя і не, а ёсць яшчэ аператыўныя. Дарэчы, апошнія адыгралі вырашальную ролю: знайшлі сярод супрацоўнікаў "скрыні" свайго чалавека... І дадзеныя, значыць, збіраюць. Сабралі. Расклалі — атрымалася наступная карціна. "Аб'ект", аказваецца, да "скрыні" працаваў на іншым заводзе, дзе ў вытворчасці выкарыстоўваліся парашкі, у склад якіх уваходзіла золата. Гэта па-першае. Жанчына — інжынер-хімік. Гэта па-другое. Пасля змены часта застаецца і працуе ў магутнай хімічнай лабараторыі "скрыні". Па-трэцяе. Гэта ўжо паведаміў той самы "свой" чалавек, які знаходзіўся ў "стане ворага". Ён жа прынёс і такую інфармацыю: "хімічка" працуе ў гэтай лабараторыі з нейкім растворам, гэта значыць, з вадкасцю. І пасля працы. Замыкае гэтую вадкасць — трохлітровыя слоікі — у сейф... Чатыры.

Пасля гэтых падлікаў перад дэтэктывамі паўстала цалкам прафесійная і, трэба заўважыць, маючы на ўвазе рэжым прадпрыемства, не лёгкая задача: здабыць і вынесці праз прахадную ўзор той вадкасці для даследавання. Тут вам неабходна даведацца і пра такую дэталь: ахова завода, узброеная рэвальверамі тыпу "наган", нікому, акрамя дырэктара "скрыні" не падпарадкоўвалася. І яшчэ адна інфармацыя для доўгіх развагаў: дырэктар гэты быў членам ЦК КПСС... Іншымі словамі, кіраўніцтва па партыйнай лініі над ім не існавала не толькі ў гэтым горадзе, але і ва ўсёй савецкай рэспубліцы Беларусь.

Цяпер можна працягнуць наш незвычайны "залаты" дэтэктыў. Свой чалавек здолеў — як? Аператыўныя метады ... — зрабіў пробу, а прасцей, адчыніў сейф і адліў у прабірку 50 грамаў таямнічай вадкасці з трохлітровага слоіка, адзначыўшы, што слоікаў гэтых у сейфе "Х" стаяла тры...

Вынас ператварыўся ў трагікамедыю, але са шчаслівым фіналам. Перадаю слова майму суразмоўцы: "Патэлефанавалі мы на завод, растлумачылі, што па адной з нашых спраў нам трэба было б паразмаўляць з некалькімі рабочымі завода, і пакольку мы не хацелі б выклікаць іх у міліцыю, каб не кінуць цень на паважанае і "ціхае" прадпрыемства, дык вырашылі сустрэцца з імі на тэрыторыі завода. Атрымалі дазвол і ўдваіх прайшлі на тэрыторыю "святыні". Праўда, з суправаджэннем, што ўскладніла перадачу прабіркі. Але, знайшоўшы хвілінку, я адцягнуў нашага цэрбера размовай пра рыбалку, а свой чалавек у гэты час перадаў прабірку майму калегу. Той збегаў у прыбіральню, нібыта для "справы" і схаваў, — нам няхай праз прахадную ісці! — гэтую няшчасную тонкую колбу ў... трусы. І хаця мы не былі хімікамі, але добра разумелі, што калі ў нечым і можна раствараць золата, дык толькі ў вадкасці кшталту "царскай гарэлкі", гэта значыць, у вельмі канцэнтраванай кіслаце. Цяпер вам будзе зразумела, чаму мой калега выйшаў з прыбіральні, памяняўшы колер твару. Я ж не дарэмна казаў, што прабірка з тонкімі сценкамі... Адзін няўдалы рух... Між іншым, таварыш мой быў жанаты і трыццаці яму яшчэ не было. Як падумаеш нават зараз, што магло б адбыцца...

Карацей, вынес ён гэтую прабірку і за першым жа рагом тэрмінова вызваліўся ад яе. І паехала нашая проба ў Мінск у фірму пад назвай "Прабіркавы нагляд".

"Прабіркавы нагляд" — установа дзяржаўная і вельмі строгая, якая працуе з каштоўнымі металамі, вызначае іх сапраўднасць, якасць, а таксама адпаведнасць проб; там працуюць высакакласныя прафесіяналы. І вось са сталіцы прыходзіць адказ: аналізам дасланай вадкасці ўстаноўлена ўтрыманне ў ёй золата 283 грама на літр!..

Уявілі мясцовыя сышчыкі, колькі золата толькі на гадзіну "Х" было ў сейфе лабараторыі, а потым — колькі ж гэтых трохлітровак там было... Чым не Калыма і Кландайк пасярод Беларусі? Ніякавата зрабілася нашым міліцыянтам і ціхенька пайшлі яны да кіраўніцтва. Кіраўніцтва паслухала, збялела і пайшло да больш высокага кіраўніцтва... Нарэшце, захоўваючы глыбокую таямніцу, вырашылі правесці аперацыю "Хімія" з захопам сейфа і слоікаў, каб узяць "залатых" злодзеяў за руку.

Прасачыць, калі "алхімічка" ў чарговы раз перагоніць парашкі ў вадкасць, а вадкасць у метал, было не цяжка. Аператыўную групу ўзначаліў начальнік райаддзела і начальнік ОБХСС. Ахова "скрыні" не падпарадкавалася бацькам-камандзірам, не зважаючы на законныя правы міліцыі. Міліцыя "не зразумела" гэткага нахабства. Перамовы перайшлі ў лаянку, лаянка — у канфлікт: ахова дастала "наганы", міліцыя — "макаравы"... Яшчэ імгненне...

— Адставіць! — загадаў начальнік райаддзела і патэлефанаваў дырэктару завода. Той паведаміў, што сёння "прыняць" не зможа і прапанаваў зайсці заўтра. Выслухаўшы тлумачэнне пра тое, што на даверанай яму "скрыні" небяспечна для дзяржавы дзейнічаюць буйныя злодзеі, пасмяяўся і падвёў вынікі: "Заўтра і пагутарым". Начальнік райаддзела тэлефануе першаму сакратару райкама, а той — дырэктару завода. Адказ: "Заўтра". На словы аб партыйнай дысцыпліне сакратар пачуў: "Тэлефануйце ў Маскву, у ЦК КПСС. Калі яны дадуць указанне — няма праблем". Сакратар, натуральна, у Маскву не патэлефанаваў: сабе даражэй.

На наступны дзень аператыўная група ўсё ж наведала лабараторыю. І, безумоўна, сейф быў пусты.

— Куды вы падзелі слоікі з вадкасцю, якія тут знаходзіліся? — папыталі "залатую" хімічку.

— Спроба не атрымалася — выліла ў ракавіну. А што? Няўдалыя спробы ў хіміі — справа звычайная, — адказала яна.

На гэтым дзесяць гадоў таму скончылася так добра пачатая справа "беларускага кландайка" на адным з ваенных заводаў — гісторыя крадзяжу дзесяткаў кілаграмаў золата...

Партыя, аказваецца, была не толькі "гонарам і сумленнем нашай эпохі", яна яшчэ ўмела маштабна і сістэматычна красці велізарныя каштоўнасці — і надзейна гэта прыхоўваць.

— Пакінулі нас "з носам", — сказаў мой суразмоўца. На што я адказаў яму, маючы на ўвазе агульнанароднае эканамічнае становішча: — І нас таксама.

**Навум ЦЫПІС**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Алесь ЧАЙКА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 27.12.96. у 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова 1450
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**